
Кірмаш зубра→3

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Успаміны Уладзіміра Клімюка→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 31 (3038) Год LIX | Беласток, 3 жніўня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# ПЯТНАЦЦАТЫ ФЭСТ „СЯБРОЎСКАЯ БЯСЕДА”

**Запрашала ўся Польшча на „славянскі фэст” у Гарадок на Падляшшы. Сцэна ў Барыку жыве! Ледзь адгрымела гарачым рокам юбілейнае, дваццаць пятае, „Басовішча”, як праз тыдзень — 26 ліпеня — у пякельна гарачыя вечар і ноч тысячы гледачоў набрылі на ўрочышча пад Гарадком на таксама юбілейныя выступленні беларускіх калектываў — 60-гадовага „Расспяванага Гарадка”, 50-гадовых „Васілёчкаў”, і гасцей — 25-гадовай слонімскай „Грыматы”, 40-гадовага ловіцкага „Устроня” са Скернявіц. А на канцэрт, які пачаўся ў 16 гадзіну і працягваўся да трэціх пеўняў наступнага дня, прыбыло народу столькі, колькі, здаецца, раней ніколі не было ні на „Басовішчах”, ні на фолькавых імпрэзах. Мабыць, найбольш аматараў прыцягнуў вядомы і папулярны польска-ўкраінскі гурт „Энэй” з Ольштына, з братамі Пятром і Паўлам Саладухамі...**






— На „Сяброўскую бяседу” ў апошнія гады запрашаем на адмысловы канцэрт вельмі вядомых спевакоў, — кажа дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку, арганізатар мерапрыемства Юры Хмялеўскі. — Гэта ўжо пастаянны элемент нашага фэсту. У гэтай формуле „Сяброўская бяседа” пятнаццатая, але як бяседны фэст ва ўрочышчы Барык — недзе пяцідзясятая. Колішнія фэсты былі досыць сярмяжныя, а „Бяседа” цяпер — ужо фестываль. Думку запрашаць выдатныя, вядомыя гурты пераналі мы ад „Басовішча”, на якое запрашалі вядомы польскі рок-гурт. Мы запрашаем эстрадны. Запрасілі мы на славянскі фэст „Энэя”, там спяваюць музыкі ўкраінскага паходжання. Запрасілі мы таксама выдатнага спевака і інструменталіста Міхала Гайдучэню з Торуні, з ансамбля „Славянскі голас”; на жаль, не змог прыехаць, але будзем спадзявацца што ўрэшце да нас прыедзе... Традыцыйна ў нас ёсць крамы з вырабамі і беларускімі стравамі. Традыцыяй нашай імпрэзы з'яўляецца конкурс на лепшы верш пра „Сяброўскую бяседу”, на „бяседную” тэматыку. „Сяброўская бяседа” разрастаецца, мае пастаянных гледачоў і слухачоў, удзельнікаў, якія прыязджаюць кожны год не толькі з Гарадоччыны, Беласточчыны, але і з далёкага замежжа. Падтрымлівае нас у арганізацыі мерапрыемства Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі ды многія спонсары, для якіх дарагая беларуская культура, але і для якіх удзел у такім шматлюдным івенце з'яўляецца выдатнай рэкламай іхняй дзейнасці. Запрошаны ўлады суседніх гмін, дзеячы культуры, чыноўнікі па справах меншасцей, самаўрадаўцы... Фэст з'яўляецца добрым месцам на наладжанне супрацоўніцтва паміж калектывамі, гмінамі, мясцовасцямі. У апошні час фурор чакаў нашы калектывы („Расспяваны Гарадок” і „Асенні ліст”) у Скернявіцах, маем рэвізіт калектыву, наладжаны таксама кантакты паміж уладамі.

— О, тут усё не па-польску? — здзіўляліся бадзёрыя пенсіянеркі з „Устроня”, бо сапраўды — са сцэны, праўда, час ад часу гучала польская народная песенька, але і вядучыя (Юрка Хмялеўскі і Ілона Дамброўская) гаварылі выключна на роднай мове, але і перад сцэнай, і вакол яе глыбока ў цёмны лес гучала беларуская гамонка. Адно па-польску была хвальба дасягненнямі Гарадоцкай гміны войта Веслава Кулешы, які тое ж і па-свойму перадаў. Народу было столькі, што не ўсунуць шпількі, так што славутыя танцы пад сцэнай маглі адбыцца яшчэ завідна, падобна як і пакупкі ў латках (рукадзелле м.інш. Галіны Бірыцкай з Нараўчанскай гміны і Дароты Сульжык з Гарадка, стэнд Надляснічтва ў Валілах, гмінныя выданні і рэклама, кнігі беларускіх аўтараў). Беларускія кнігі цікавілі нават сяброў сербскага ансамбля, якіх найбольш заняла кніга для дзяцей „Жывінкі з глыбінкі”. Дарэчы, сербскі танцавальны гурт „Прві Партізан” з Ужыц быў вялікай аздобай фэсту, падобна як топлуг (калектыў) „Мастэрс Кіліц-Калькан&Нілюфер Хальқданслары” з Бурсы ў Турцыі, хаця аматарскія, як амаль усе выступаючыя на сцене, але ж непраўзыдзена прадстаўляючыя балканскі фальклор — прыехалі яны з канцэртамі ў рамках Міжнароднага фестывалю музыкі мастацтва і фальклору „Падляшская актава культур”. Слаўным госцем быў народны ансамбль народнай музыкі і песні „Грымата” Слонімскага Раённага дома культуры. Ансамбль адзначыў 25-годдзе сваёй дзейнасці, вядомы не толькі на Слонімшчыне, але і па-за яе межамі, лаўрэат і пераможца шматлікіх абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, фестываляў і святаў, які амаль штогод шчыра вітаюць на Беласточчыне (кіраўнік Валянціна Шаронава): „Мы спяваем толькі беларускія народныя песні, патрыятычныя беларускія і сучасныя песні на роднай мове. Многія песні суправаджаюцца танцавальнымі нумарамі. Нас цяпер 17 чалавек, а было ўсяго дзевяць. Абнаўляецца калектыў, уводзяцца новыя інструменты, мяняецца рэпертуар, але застаюцца высокі прафесійны ўзровень, творчы пошук, самааддача і высокае выканаўчае майстэрства”.

Гарадок вітаў музыкай, віталі музыкай госці. Хораша праспявалі найменшыя ўдзельнікі — „Казка” з гарадоцкай школы. Не падвялі гарадоцкія „Расспяваны Гарадок”, „Асенні ліст”, „Хутар” (новыя кашулі вышыла ім Міраслава Антановіч), залучанская „Каліна”. Юбілейна і магутна праспявалі „Васілёчкі”, „Чыжавяне”, маладыя „Жаваранкі” з Махнатага і „Нараўчанкі” пад гармонік Пятра Скепкі, магутны галасамі „Оморфос” з Сямятыч. З супортам перад „Энэем” пад рокавым кіраўніцтвам Паўла Азяблы „Вэна” грымнула м.інш. „Мы славяне” (на беларускія словы М. Лукшы) Да танца пасля ў ноч ігралі „Дэкада Банд”, „Гай”, „Сказка”. Пад сцэнай на ражне смажылася парасё. Усё як у пераможным вершы Кацярыны Паплаўскай з Калодна: *Апрача канцэрту ёсць і феерверкі. Калярова маланка — які ж свет міленькі! Каб глядзелі дзеткі, дарослы і маленькі; тутай бедны й багаты будзя весяленькі! (...) І для бабы, і для дзеда, бо сяброўства ўсім патрэбна!* І пачулі мы першы раз новы хіт „Хутара” — „Мой суседзе, не сумуй!” А праз тыдзень, у Міхалове — бяседа ў суседа.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## З 70-годдзем

віншуем нашага сябру
**Янку ЦЕЛУШЭЦКАГА!**
Моцнага здароўя, шчасця
і ўдач ды натхнення на другую
сямідзясятку!
Перад табою, Янка, яшчэ столькі
дарог, якія адолець трэба,
І столькі ўсяго яшчэ ўбачыць
пад нашым родным небам!





# А ў нас усё Макей

Знешняя палітыка гэта проста лагічны працяг унутранай. Гэтае выслоўе ведае хіба што кожны, хто хоць бокам цікавіцца палітычнай сітуацыяй у сябе ў краіне і ў свеце. Прыкладам, Захад. Многія аніяк не могуць уцяміць, чаму заходнія краіны ліберальнічаюць з дыктатурамі і ўвесь час шукаюць магчымасці дамовіцца па-добраму нават з самымі адыёзнымі і абсалютна недамоўнымі палітычнымі апанентамі. Такімі, прыкладам, як паўночнакарэйскія кіраўнікі. Але ў гэтым няма нічога алагічнага, бо менавіта так яны паводзяць сябе ў сваіх краінах са сваімі грамадзянамі. Культ паліткарэктнасці і гуманізму стаў сістэмай мыслення і нормай паводзін не толькі ў сваёй айчыне, але ўвогуле ў кожным аспекце жыцця еўрапейскіх палітыкаў. І ці можна іх вінаваціць за чалавечнасць і дабрыню, калі Еўропа ўжо дзве тысячы гадоў выхоўваецца ў культуры, якая навучае любіць нават ворагаў сваіх?

Зразумела, што ўсялякую ідэю можна давесці да абсурду, што нярэдка здараецца. Стараючыся стаць гуманным, можна згубіць пачуццё абавязковасці справядлівага пакарання. Зразумела, што шукаць баланс паміж паліткарэктнасцю і неабходнасцю сказаць праўду патрэбна. Але не пра тое зараз размова, а толькі пра цесную сувязь знешняй і ўнутранай палітыкі. Ляжаць яны ў адной і той жа сферы мыслення адных і тых жа індывідаў, ад якіх залежыць прыняцце важных палітычных рашэнняў.

Калі ўзяць сённяшнюю Расію, то яшчэ з першай чачэнскай вайны можна было б прадказаць яе сённяшнюю агрэсію на Украіне. І задачы, і мэты, і метады яе рэалізацыі ідэнтычныя як у сённяшніх межах Расійскай Федэрацыі, так і за яе межамі. Увесь пасляельцынскі перыяд Расія ваюе то на сваёй тэрыторыі, то за яе межамі. Вайна ў Чачні і вайна ў Татарстане адрозніваліся толькі ступенню супраціву гэтых суб'ектаў Расійскай Федэрацыі маскоўскай уладзе. Гэтак жа і ў знешніх дзеяннях. Грузія або Украіна — краіны, супраць якіх адкрыта вядуцца вайсковыя дзеянні, бо па-іншаму ліквідаваць гэтыя дзяржавы не атрымалася. Але ж ёсць Прыднястроўе, ёсць шэраг постсавецкіх краін, якія ўдалося прыціснуць без адкрытай агрэсіі, а праз іх кіраўніцтвы, у свой час менавіта для гэтага і падтрыманыя Крамлём. У тым ліку і Беларусь.

Дык вось Беларусь. Няцяжка было прадказаць, што цалкам зрусіфікаваная і васальская ўнутраная палітыка Беларусі і ў знешнепалітычным абліччы будзе дакладна гэтакай васальскай і прарасійскай. І вось ужо едзе ў Еўропу міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей і там заяўляе, што Расію трэба прыцягнуць да праграмы „Усходняе партнёрства". Так-так. Не пра Беларусь ва „Усходнім партнёрстве" дбае наш міністр, а пра іншую краіну. Нібыта ў Беларусі ва „Усходнім партнёрстве" ўсё даўно ўжо о'кей. Але ж там не о'кей! Там усяго толькі Макей!

Цікава чаму, калі Украіна дамаўлялася з „Усходнім партнёрствам", беларускі бок заяўляў, што чакае яе ў ЕўраАзЭс? Цікава таксама, чаму міністр Макей не раіў ні Януковічу, ні Еўрасаюзу больш цеснага супрацоўніцтва? А зараз такі васальскі клопат за Расію.

Толькі гаспадары ў васалах маюць заўсёды вельмі малую патрэбу, больш пераболшана дэманстратыўную, чым рэальную. Бо як Расія захоча дамаўляцца з Захадам, з тым самым Захадам, які заўсёды гатовы да дамоўленасцей, яна абыдзецца і без рэверансаў з боку беларускіх улад. Яна тады ў лепшым выпадку проста пераверне сваіх заступнікаў, калі не растопча, і за сталом перамоў не пакіне для іх месца.

Што ж тычыцца беларускага грамадства, то яно ў адрозненні ад расійскага, і аналагічна ўкраінскаму, цягнецца на Захад. І ўкраінскія падзеі паказалі, што прамаскоўскую ўладу ні ў адной постсавецкай краіне не ў стане ўратаваць ні Расія, ні яе псеўдавайсковыя і псеўдаэканамічныя ўтварэнні, якія носяць гэтакі ж дэманстратыўны і далёкі ад рэальнасці характар, як і патрэба ў васальстве. Таму ўладам мае сэнс пагаджацца з народам.

А міністру Макею лепш бы падумаць пра месца сваёй краіны ў структурах цывілізаванага свету, бо ўжо ўсім хіба зразумела, што толькі там месца Беларусі.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Як утаймаваць дэманаў

Ёсць нядобра, а на самой справе вельмі дрэнна. Усюды і ва ўсім. Хоць глядзеўшы навіны па тэлевізары маецца ўражанне, што, так, у свеце ненайлепш, але ў рэшце рэшт не так ужо і дрэнна. Вось, у адным з азіяцкіх заапаркаў нарадзілася панда. І зноў жа, нехта ў Польшчы пабіў рэкорд Гінеса па даўжыні кішкі запечанай бульбы. Таксама ва Украіне па-ранейшаму таўкуцца, толькі што невядома да канца, хто з кім. Хоць трупы кладуцца пакотам, але, як гаворыцца, дзе рубаюць дрэвы, там ляцяць трэскі. Пытанне, куды яны ляцяць, і каму на шкоду. У апошні час збілі пасажырскі самалёт. Выпадкова забіты амаль 300 чалавек, невінаватых у чым-небудзь. Нічога страшнага, калі вы памятаеце, колькі ахвяр паглынулі і да гэтага часу паглынаюць падзеі ў Дарфуры або ў Сірыі. Гэта ўжо не дзясяткі, а сотні тысяч забітых і пакрыўджаных людзей. Тым не менш, як і ў выпадку з Украінай, так дарфурскім і сірыйскім, усё і так кончыцца на палітычных разліках і істэрыцы СМІ. Потым свет запоўніць новы кантынгент смерці. Асаблівая логіка папушчальніцтва вайне не абяцае людзям мірнай будучыні. Тым больш, што інструменты вайны становяцца ўсё больш удасканаленымі і зусім апакаліптычнымі. Магчыма, прычынай тае логікі з'яўляецца ўласцівая чалавечаму роду прыродная ганарлівасць: «Я ведаю лепш, я маю рацыю»? Хоць мы вызначаем вайну як зло, гэта не толькі таму, што яна забівае нявінных людзей. Перш за ўсё таму, што гэта дэканструюе чалавечую псіхіку. Незалежна ад таго, ці хтосьці гэта пасіўны ці актыўны ўдзельнік, без выключэння, у кожным з іх абуджае спячыя дэманы нянавісці і пагарды да іншых, атавістычны эгаізм, цынізм, абыякавасць. Гэтыя дэманы павялічваюцца ў сіле падчас вайны, але не слабеюць на працягу доўгага часу міру. Калі для кагосьці зло лунаючае ў далёкіх Дарфуры і Сірыі будзе занадта абстрактным, хай разумее, што яно разгулялася ў суседняй Украіне. Незалежна ад санітарных кардонаў, памежнікаў, калючых дратоў лёгка пранікне праз межы Польшчы або Беларусі, як свінская чума. Хоць успышка свінской чумы можа быць ліквідавана, калі забіць кожную хворую асобіну ў заражаным статку, у выпадку людзей, інфіцыраваных дэманамі вайны, гэта немагчыма. Няма такога чалавека, які б не змагаўся з імі. З дэманамі.

Са смерцю — тою матэрыяльна балючай, калі бессэнсоўна гінуць, і тою, што выводзіцца з сімволікі зла, якое пастаянна дэмаралізуе глыбока гуманныя каштоўнасці і ідэі — асвойваемся штодня. Кожны дзень працягваем выступаць супраць яго. Падсвядома мы нязгодныя на зменлівасць рэчаў, рэлятывізм паняццяў, зменлівасць поглядаў, праміанне каштоўнасцей. Настойванне, аднак, на поглядзе, што на стабільнасць ідэй і рэчаў уплывае наша непахісная і некрытычная вера ў іх сэнс і мэту, парадаксальна, прыводзіць да зла. Іракскія джыхадысты з Ісламскай Дзяржавы нядаўна інфармавалі Арганізацыю Аб'яднаных Нацый, што ў рэлігійным законе аднаўляюць абавязковае абразанне жанчын ад 11 да 46 гадоў. Іх лік ацэньваецца ў 4 мільёны. Абразанне жанчыны гэта згвалтаванне яе натуры, пастаяннае калецтва цела і псіхікі. Гэта таксама безупынны боль, паўторная (асабліва ў гарачым клімаце) інфекцыя, што часта прыводзіць да смерці. Рэлігійны фундаменталізм з'яўляецца паглыбленым і ў Польшчы. Ідэалагічны крыжовы паход Каталіцкага касцёла супраць апладненню ў прабірцы, абортаў, кантрацэпцыі, і, нарэшце, яго гамафобная рыторыка, накіраваная супраць рухаў геяў і гендэр перастае быць проста голасам у агульнаграмадскім абмеркаванні. Гэта становіцца фактам. З фактам, як ні кажы, не дыскутуюць. І гэта, бадай, самае вялікае зло, якое можа сустрэць грамадзян Рэчы Паспалітай. Згода на тое, што усталяваў мацнейшы.

Хваля прагрэсу, цывілізацыі, асветы, асвечанага лібералізму, сімпатычнай адкрытасці для іншых культур, светапоглядаў, арыентацый выразна адплывае ва ўсім свеце. Наплываючая з неабсяжнасці рэальнасці контрхваля нясе нецярпімасць, адзінаслушнасць, пену цемрашальства, балваны найпрымітыўнай рэлігійнасці. Гэта адбываецца як у хрысціян, так і ў мусліма͞ў. На Захадзе і на Усходзе. Таксама будызмам пачынаюць тузаць унутраныя супярэчнасці. Лініі фундаменталісцкіх напруг прабягаюць па ўсіх абласцях чалавечай цывілізацыі. Трэба нам пра іх гаварыць. Гэта, мабыць, адзіны спосаб, каб утаймаваць нашых дэманаў.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Шырокая дэбата аб Усходзе

Гэта не здарылася са мной яшчэ за многія гады журналісцкай практыкі, каб хтосьці арганізоўваў прэс-канферэнцыю некалькі тыдняў да пачатку мерапрыемства, якое мае быць абвешчана на ёй. Гэта адбылося нядаўна, калі Войцех Кусьпік, старшыня Групы польскага таварыства падтрымкі прадпрымальніцтва (якая базуецца ў Катавіцах), падляшскі маршалак Яраслаў Дваянскі і прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі паведамілі аб маючымся адбыцца ў сталіцы Падляшша «Усходнім гаспадарчым кангрэсе — Партнёрства ў інтарэсах развіцця» аж 18-19 верасня. Хваліліся, што прыме ў ім удзел каля тысячы чалавек (прадстаўнікоў бізнесу, палітыкі, эксперты) з Польшчы і іншых еўрапейскіх краін (у тым ліку Беларусі), прычым пацвярджэння ўдзелу большасці з іх пакуль няма, як і самога канчатковага спісу ўдзельнікаў. Прэзідэнт Трускаляскі затое выразна заявіў, што ўдзел у мерапрыемстве абвешчаны (вусна) прэзідэнтам Бранілавам Камароўскім.

Што гэта за кангрэс, з такім размахам і апярэджаннем аб'яўлены? Вось падчас каля трыццаці тэматычных сесій з больш чым ста дакладчыкамі мае быць гаворка аб магчымасці развіцця ўсходняй Польшчы і шырока разуметым супрацоўніцтве падляшскага рэгіёна, Польшчы і Заходняй Еўропы з Усходам, у прыватнасці, у кантэксце новай бюджэтнай перспектывы Еўрасаюза. Тэматыка кангрэса мае кранаць праблемы буйных інфраструктурных інвестыцый, праз перспектывы аднаўляльнай энергіі да дэталёвага аналізу рынкаў, у тым ліку агра-харчовага, медыцынскіх паслуг і гатэльных нерухомасцей.

— Аб магчымасцях развіцця вырашае сённяшняя адкрытасць у эканамічным супрацоўніцтве, кемлівасць ды жаданне пераадолець абмежаванні. Ва ўсходнюю Польшчу і Усходнюю Еўропу варта інвеставаць, у задумы, ініцыятывы і мары. Усход і Захад маюць патрэбу адзін у адным, — сцвярджаў на прэс-канферэнцыі старшыня Кусьпік, якога Група ПТПП з'яўляецца ініцыятарам з'езда. — Усходняя Польшча гэта наступальныя галіны прамысловасці, экспартная сіла агра-харчовага сектара, мадэрнізаваная інфраструктура, новая энергія. Усход Польшчы, але і ўсход Еўропы, уяўляюць сабой гіганцкі, толькі часткова эксплуатаваны патэнцыял. Ёсць патрэба ў шырокай дыскусіі аб тым, як скарыстацца гэтымі магчымасцямі.

І дадаў:

— Мы хочам канкрэтных прапаноў.

Маршалак Дваянскі спадзяецца, што будуць разгледжаны пытанні эканамічнага супрацоўніцтва з бліжэйшымі суседзямі з-за ўсходняй мяжы ваяводства:

— Супрацоўніцтва з Беларуссю і Украінай надалей нялёгкае. Я спадзяюся, што будзем гаварыць пра магчымасці большай даступнасці на ўсходнія рынкі.

Прэзідэнт Трускаляскі адзначыў:

— Усходняе партнёрства перажывае крызіс. Мы хочам, каб кангрэс падкрэсліў ролю мясцовага прыгранічнага руху на прыкладзе дамовы паміж Польшчай і Расіяй.

Сярод тэм будуць падрабязна разглежаны пытанні энергетычнай галіны, а кангрэс мае суправаджаць конкурс: «ТОП Камунальныя інвестыцыі ўсходняй Польшчы». Мае ён выявіць дзесяць такіх інвестыцый, якія ў найбольшай ступені паспрыялі развіццю эканомікі, рэгіёна і жыхароў усходняй Польшчы за апошнія дзесяць гадоў. Арганізацыя кангрэса, як чакаецца, абыдзецца прыкладна ў мільён злотых, а грошы для гэтай мэты прыйшлі ў асноўным — як сказаў старшыня Кусьпік — з камерцыйных крыніц. Публічныя сродкі, якія расходаваліся органамі мясцовага самакіравання на ўдзел у яго падрыхтоўцы, маюць скласці 10-15 працэнтаў ад агульнай сумы. І хоць грошы, выдаткаваныя на кангрэс наўпрост не вернуцца, мабыць высновы, якія будуць выцягнуць з яго, хаця б візуальна зменяць імідж Усходняй сцяны, аб якой нядаўна сказаў адзін з герояў падслуханых афёры — міністр фінансаў Уладзімеж Карпінскі, раней адказны за нацыянальныя меншасці ў ведамстве адміністрацыі і лічбавізацыі. Падводзячы высновы з тэорыі аб розніцы паміж заходняй і ўсходняй Польшчай аднаго прафесара па рэгіянальным развіцці, ён сказаў, што ў канцы гэтая тэорыя зводзіцца да аргумента (цытую за міністрам): «хрэн там з тою ўсходняй Польшчай».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

«Кірмаш зубра» — вялікае гайнаўскае мерапрыемства, у якім прымаюць удзел рукадзельнікі, мастакі, творцы і прадаўцы. Кірмаш адбываецца ў гарадскім парку. Перад публікай прэзентуюцца ў галоўным беларускія калектывы з тэрыторыі Еўрарэгіёна «Белавежская пушча», які ахоплівае Гайнаўскі і частку Бельскага паветаў, а таксама Пружанскі, Камянецкі і Свіслацкі раёны.




Рукадзелле Свіслацкага раёна (справа каробкі Пётра Леанюка з Рудкі)



Стэнд фонду «Яны, гэта мы» і яго старшыня Наталля Герасімюк (справа)

# Кірмаш зубра ў Гайнаўцы

— Спачатку мы вышуквалі народных творцаў і мастакоў, прапанавалі ім прыняць удзел у нашай імпрэзе. Зараз, калі ладзіцца восьмы выпуск «Кірмашу зубра», рукадзельнікі і гандляры самі просяць згоды на ўдзел у кірмашы. Канешне, мы запрашаем творцаў, прадстаўнікоў рэдкіх прафесій чарговы раз паказаць свае вырабы, але такіх выпадкаў мала. Сёлета мы атрымалі ажно больш за 70 заявак на ўдзел у «Кірмашы зубра» з магчымасцю продажу вырабаў, — сказаў Расціслаў Кунцэвіч, дырэктар Гайнаўскага дома культуры, суарганізатар мерапрыемства разам з бургамістрам Ежы Сіракам, які ўрачыста адкрыў кірмаш. — Многа людзей прыходзіць на нашае мерапрыемства, таксама па прычыне выступленняў народных калектываў і сучасных гуртоў.

«Кірмаш зубра» — цікавая прапанова прыемна правесці час на свежым паветры. Можна паслухаць музыку, паглядзець калектывы, купіць сувеніры, дэкаратыўныя вырабы да сваіх памяшканняў і традыцыйныя прадукты харчавання. Хаця ў нядзелю, 13 ліпеня, раніцай ішоў дождж і практычна да поўдня было пахмурнае надвор'е, з пачаткам мерапрыемства пачало свяціць сонца і цёплае надвор'е было ажно да заканчэння імпрэзы. Я спачатку стаў хадзіць паміж ларкамі рукадзельнікаў і прадаўцоў сувеніраў і харчоў. Прадаўцоў было многа, але таксама сабралася шмат пакупнікоў.

— Мы прыехалі ажно з-пад Варшавы, прадаем посуд размаляваны ўручную, з цікавымі матывамі. Знаёмыя параілі нам прыехаць у Гайнаўку і не шкадуемся. Нашы вырабы прадаюцца, магчыма, такога посуду тут не робяць, — гаварылі Уршуля і Караль Страмэцкія.

Побач дзяўчына з Бельска-Падляшскага прадавала самастойна выкананую ўручную біжутэрыю і вырабы іншых асоб. Дыяна Янчук з Навасадаў прадавала свае алейныя карціны. Ім мастацтвам цікавіліся гайнавяне і прыезджыя. Карціны прадаваў таксама Мікола Яноўскі са Старога Беразова, які пастаянна наведвае «Кірмаш зубра». Непадалёк ад яго з каробкамі і іншымі саламянымі вырабамі размясціўся Пётр Леанюк з Рудкі.

— Я прыязджаю на кірмаш штогод і бачу, што людзі штораз менш цікавяцца маімі вырабамі. Можа саломапляценне выходзіць з моды, а можа людзі вымушаны штораз больш грошай расходаваць на свае падставовыя патрэбы і ў іх мала застаецца сродкаў на абсталёўванне дамоў і куплю сувеніраў. Частку майго саломапляцення па оптавых цэнах бярэ пакупнік з Польшчы, а за каробкамі і талеркамі прыязджаюць да мяне ў Рудку турысты, — заявіў Пётр Леанюк.



«Падляшская капэла»

Кавальскія вырабы прэзентаваў гайнаўскі каваль Станіслаў Мяжвінскі. Непадалёк ад яго свае рукадзелле прадавалі творцы з Пружанскага і Свіслацкага раёнаў. Каля іх спачатку цясніліся людзі, каб прынамсі паглядзець на беларускія народныя вырабы. Разам з рукадзельнікамі прыехалі ў Гайнаўку народныя калектывы — «Пружаначка» з Дома культуры ў вёсцы Сонечны і «Мілавіца» са Свіслачы.

— Мы пад вялікім уражаннем ад сённяшняга шматлюднага мерапрыемства. Наш выступ публіка ўспрыняла вельмі цёпла. Важнае таксама сяброўства паміж прыгранічнымі раёнамі, бо раней не было мяжы і жыхары нашых мясцовасцей маглі свабодна перамяшчацца паміж Пружанамі і Гайнаўкай. Цяпер мы маем магчымасць спатыкацца, як было ў мінулым, пераадолеўшы складанасці з атрыманнем віз, — гаварылі Ірына Гарустовіч, Святлана Гамшэй, Вольга Сахарка з Пружаншчыны.

— Я са сваім саломапляценнем прыязджаю на «Кірмаш зубра» кожны год і бачу, як мерапрыемства разрастаецца. Аднак пакупнікі разыходзяцца па вялікай колькасці прадаўцоў і ў мяне купляюць менш рукадзелля, чым у мінулых гадах. Гэта мяне не палохае, бо ад выезду за мяжу застаюцца незабыўныя ўражанні і сяброўства з жыхарамі Гайнаўкі, — сказала народная рукадзельніца Раіса Баюра з вёскі Новыя Засімавічы Пружанскага раёна.

Саламяныя вырабы Раісы Баюры розніліся ад саломапляцення нашых мясцовых рукадзельнікаў перш за ўсё вытанчанымі ўзорамі і своеасаблівым стылем выканання. Побач карціны і вышыўку крыжыкам прадавалі жанчыны з Пружаншчыны. Сярод іх былі ўдзельніцы калектыву «Пружаначка». Многа цікавага прэзентавалі таксама рукадзельніцы Свіслацкага дома рамёстваў.

— Нам у Гайнаўцы падабаецца, бо людзі тут мілыя і гасцінныя. Мы ж папраўдзе суседзі, бо жывем па абодвух баках мяжы, — заявіла Тацяна Кабрынец, якая прадавала рукадзелле зробленае ў Доме рамёстваў у Свіслачы.

— Мы выступалі ў Літве, Латвіі, прыязджаем у Польшчу. «Кірмаш зубра» нам вельмі падабаецца з-за атмасферы тыпічнай для кірмашу і блізкага кантакту з публікай, бо мы ж спявалі побач ларкоў з рукадзеллем, — гаварылі Галіна Шапавал, кіраўнік музычнага калектыву «Мілавіца» са Свіслачы і Надзея Карпюк, менеджар гурта.

Музычныя калектывы сёлета выступалі ў гарадскім парку, непадалёк ларкоў. Побач іх збіраліся гайнавяне, каб паслухаць беларускія, польскія і ўкраінскія песні. Калектывы «Пружаначка» і «Мілавіца» захапілі сабраных перш за ўсё народнымі беларускімі песнямі ў апрацоўцы.

— Мы выступаем з беларускімі народнымі песнямі, каб падтрымліваць традыцыі і прыемна праводзіць час. Замежныя выезды гэта дадатковы наш козыр, — заявілі жанчыны з «Пружаначкі».

З беларускім рэпертуарам удала запрэзентаваліся таксама «Рэха пушчы» з Гайнаўскага дома культуры, «Трыо з Макаўкі», «Жаваранкі» з Махнатага, «Арт-Пронар» з Нарвы і «Падляшская капэла», якая раней рэкламавалася як калектыў з Сямятыч, а зараз яе ўдзельнікі паходзяць з розных мясцовасцей Падляшша.

Гайнавяне ахвотна куплялі прадукты зробленыя ў Беларусі і традыцыйнае харчаванне выкананае ў Літве, паводле тамашніх правераных рэцэптур. Нядаўна ў Гайнаўцы пачаў дзейнічаць Фонд у карысць будовы адкрытага грамадства «Яны — гэта мы», якога прадстаўнікі прадавалі на кірмашы сувеніры і рукадзелле. Былі гэта вырабы з гліны, выкананыя засуджанымі са Следчага ізалятара ў Гайнаўцы, карціны на шкле, якія намалявалі мастакі з Брэста, сумкі і іншыя вырабы, якія зрабілі валанцёры фонду.

— Наш фонд «Яны — гэта мы» дзейнічае яшчэ коратка і завязваўся ў галоўным з думкай дапамагаць асобам заключаным у Следчым арышце ў Гайнаўцы. Мы цяпер ладзім там кулінарнае абучэнне, але прадбачваем таксама весці іншую адукацыйную дзейнасць. Сувеніры прадаем, каб здабыць сродкі на статутныя мэты. Прадбачваем, што дзейнасць нашай арганізацыі будзе таксама накіраваная да дзетак, моладзі, беспрацоўных, інвалідаў, састарэлых і бяздомных. Прадугледжваем таксама дзейнічаць у карысць будовы адкрытага дэмакратычнага грамадства. Аднак гэтыя ініцыятывы можна рэалізаваць толькі дзякуючы канкрэтным сродкам і таму будзем намагацца іх раздабываць, — сказала Наталля Герасімюк, старшыня фонду.

Намеснікам старшыні фонду «Яны — гэта мы» была выбрана настаўніца-пенсіянерка Марыя Балтрамюк, а сакратаром — школьны педагог Гайнаўскага белліцэя Аліна Лаўрыновіч. Людзі падыходзілі і куплялі сувеніры, успамагаючы такім чынам дзейнасць фонду. Збоку сваё рукадзелле прадавала Людміла Карпюк з Дубіч-Асочных. Папяровую ракіту, сурвэткі і вырабы выкананыя кручком прадавала Хрысціня Грыгарук з Орлі. Людзі затрымліваліся каля іх, разглядалі рукадзелле і куплялі яго ў якасці сувеніраў або каб упрыгожыць дом. Дзеткі гулялі ў вялікім гарадку гульняў, прасілі бацькоў купляць ім цацкі і ласункі, а высокі мужчына, пераапрануты за зубра, сімвал Белавежскай пушчы, стараўся развесяліць наймалодшых. Побач яго ахвотна фатаграфаваліся таксама дарослыя.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Заблудаўская дэмаграфія

У Заблудаўскай гміне (Беластоцкі павет) пражывае каля 9 000 асоб у 48 салэцтвах, з невялікай перавагай жанчын. Найбольш у горадзе Заблудаве — 2 420 чалавек.

А вось найбольшыя вёскі: Дабжынёўка — 725 жыхароў, Кур'яны — 540, Рахвалаўка — 410, Галіцкія — 235, Звяркі і Рыбалы — па 230, СКР Рыбалы — 205, Паўлы — 190, Скрыбічы — 180, Лубнікі — 175, Заблудаў-Калёнія — 170, Фальваркі-Малыя — 165, Фальваркі-Тыльвіцкія — 160, Камёнка — 150, Загрушаны і Рэпнікі — па 140, Беласточак і Фальваркі-Вялікія — па 120, Кудрычы — 110 і Кухараўка — 100. Як цікавінку дадам, што ў найменшых паселішчах Багданец і Касцюкоўка пражывае ўсяго па адным чалавеку, у Рудніцы — двое ды ў Тэадораве — шэсць.

Заглянуў я на старонкі „Нівы" № 13 (1 205) ад 1 красавіка 1979 года і ў маім допісе „Заблудаўская дэмаграфія" 35-гадавой даўнасці прачытаў, што тады ў Заблудаўскай гміне пражывала 12 640 чалавек, а ў мястэчку Заблудаў — 1 770. Яшчэ тады да Заблудаўскай гміны належала вялікая вёска Дайліды-Гурныя (цяпер яна — квартал Беластока), якая налічвала 1 429 асоб. У Рахфалаўцы было зарэгістраваных 580 пасяленцаў (цяпер 408), у Кур'янах — 566 (цяпер 542) і ў Рыбалах — 542 асобы (цяпер 230). І яшчэ да Рыбалаў. Тут у полі за вёскай існуе СКР Рыбалы (як асобная адміністрацыйная адзінка) і пражывае ў ёй у шматсямейных жылых блоках 205 чалавек.

З сумнай статыстыкі. Тады — 35 гадоў таму — памерла на працягу года 107 чалавек і цяпер памірае ў год амаль тая самая колькасць — 109 (і гэтаксама з перавагай мужчын; у сярэднім на 10 больш чым жанчын). Зараз маем больш разводаў чымсьці было іх раней. Напрыклад, пажаніліся 76 пар і развялася 31 пара.

Пацяшальна тое, што як раней, так і цяпер некаторыя хаця нешматлікія асобы дажываюць да 100-гадовага ўзросту (гэта перш-напеш прадстаўніцы прыгожага полу). Гэтак ёсць у Заблудаўскай гміне і ў суседніх, між іншым, у Міхалоўскай гміне.

## Беларускі фэст у Нараўцы

Пасля поўдня ў нядзелю, 3 жніўня гэтага года ў Нараўцы Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку, войт Нараўчанскай гміны і дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы запланавалі беларускі народны фэст. У праграме яго вялікі канцэрт у выкананні сямі (!) шырокавядомых эстрадных і фальклорных беларускіх мастацкіх калектываў з Беласточчыны і з Беларусі.

На сцэне ў аднoўленым сёлета прыгожым нараўчанскім амфітэатры выступяць „Лайланд", „Каласкі", „Гай" і „АС" з Беластока, „Рэчанька" з Козлікаў і „Оморфос" з Сямятыч ды „Росніца" з Гродна (Беларусь).

Гэтая летняя імпрэза ў першую нядзелю жніўня пачнецца а 17-й гадзіне.

**(яц)**



Станіслаў Владарчык

# Чэмпіянат свету па карасінцы

Карасінка — назва гульні ў карты. Гавораць што ведаюць яе толькі крынчане і мо некаторыя жыхары навакольных вёсак. Калі яна паявілася, цяжка сказаць. Мабыць, яна так старая як самыя Крынкі. Што абазначае гэтае слова я прабавала даведацца ад самых лепшых і найбольш вопытных крынскіх карасінцаў.

«Гэта пэўна будзе штосьці беларускае», — кажа сямідзесяцігадовы Тадэвуш Вансовіч з вуліцы Гранічнай. «Пытаўся я ў сваёй цешчы, — кажа шасцідзесяцігадовы Станіслаў Владарчык, — сказала: карасінка, ну, карасінка».

А можа назва ўзялася ад керасінавай лямпы? Сама прабую шукаць адказу. Да такога тэзісу прывёў мяне знаток ігры Анатоль Яцкевіч з вуліцы Сакольскай. Ён растлумачыў, што карасінілі найчасцей у зімовыя вечары. У Новы год бацькі застаўлялі іграць сваіх дзяцей, каб тыя брамак не здымалі суседзям. «Гарантую, што зімою восемдзесят працэнтаў крынскага насельніцтва ірала ў карты», — з рукой на сэрцы кажа спадар Анатоль. Значыць, без газы, інакш керасіну, ніяк не магло тут абысціся.

«Мая жонка працавала ў мясцовым кіёску „Рух", — успамінае Станіслаў Владарчык. — Прывязуць дзесяць калод, хвіліна і ўсе раскуплены». «Цяпер тое ж самае дзеецца ў самаабслуговай краме, — заўважае Анатоль Яцкевіч, — але найбольш якасныя карты можна набыць праз інтэрнэт. Калісь ігралі па хатах, пераважна ў суседскай кампаніі, — працягвае ён. — Разам вячэралі, хтосьці бутэлечку прынёс». Станіслаў Владарчык не з'яўляецца карэнным крынчанінам, але жыве тут са сваёй крынскай жонкай ужо сорак гадоў. Іграць навучыўся, бо, як кажа, у Крынках усе іграюць: «У цесця сям'я шматлюдная, як усе швагры пасходзяцца ў суботу то да раніцы ў нядзелю гуляюць».

Дваццаць-трыццаць гадоў таму ў карасінку ігралі таксама ў мясцовым доме культуры. Тут абавязкова часталіся моцнай, чорнай кавай з цукрам у кубіках. Малака ў каву тады ніхто не ўліваў. «Кава папраўляе памяць і канцэнтрацыю, — тлумачыць Генё Сіпко. — Калісь той, хто прайграў, плаціў дваццаць старых злотых. За сабраныя грошы ігракі арганізавалі сабе пачастунак».

Карасінілі таксама ў час забастовак у крынскім пэгеэры. «У стол кулакамі білі, каб выйграць, ажно кроў лілася. Міхал Дабрэнчык, вечная яму памяць, раз нават і на працу не пайшоў, так мы з ім зайгралі», — успамінае Анатоль Яцкевіч. Тадэвуш Вансовіч карасінкай заразіў жаўнераў з розных куткоў Польшчы, калі служыў у войску ў Мінску-Мазавецкім.

Жанчыны таксама іграюць. Яны больш заўзятыя, чым мужчыны і больш нервуюцца, калі прайграваюць, лічаць мае суразмоўцы. «Старая Сухоцкая як з Глашай ірала, то заўсёды сварыліся. Ім было ўжо за семдзесят, а яшчэ ігралі. Няма ў нас нядзелі, каб турніру якога не было. А зімой то ўжо кожны вечар гулялі», — гаворыць Анатоль Яцкевіч.

Сапраўдны турнір па карасінцы прайшоў 23 ліпеня 2014 года. У Крынскі дом культуры зышлося васямнаццаць ігракоў, у тым ліку тры пакаленні крынскага мужчынскага полу і дзве дзяўчыны. Ужо другі раз запар званне чэмпіёна заваяваў Станіслаў Владарчык. «Сёння я стаміўся на працы, але калі даведаўся пра турнір, папрасіў жонку, каб хутка падагрэла ваду», — прызнаецца пераможца. Адным з ініцыятараў афіцыйнага турніру з'яўляецца сын Анатоля Яцкевіча — Каміль. «Карасінку ведаю з дзяцінства, — кажа ён, — але не думаў, што гэта тыпова крынская ігра і што гулялі ў яе мае прадзеды. Ідэя спаборніцтва ўзнікла тры гады таму, у час маёй стажыроўкі ў Крынскім доме культуры. Тады разам з дырэктар Альжбетай Чарэмхай сабралі мы сорак удзельнікаў. Сядзелі да палловы першай ночы. Цяпер сустракаемся, традыцыйна, два разы ў год, у зімовыя выхадныя і з нагоды Дзён Крынак».

Каміль распавёў пра агульныя правілы карасінкі: «Іграюць пара супраць пары. Кожнаму пападаюць у рукі чатыры карты. Чатыры карты выкладаецца на стол для падборкі. Для прыкладу, калі ляжыць пяцёрка, а калега мае ў руцэ сямёрку, каб пабудаваць сямёрку, ён патрабуе яшчэ двойку. Гэта чыстая матэматыка. Калі ляжыць адзін і два, а ў руцэ тройка, тады забіраецца карты гэтай тройкай. На стале двойка, а ў руцэ чацвёрка і шасцёрка, значыць можна збудаваць шасцёрку. Гэту будоўлю хтосьці можа перабудаваць, калі ў руцэ трымае тройку і дзявятку. Каб з шасцёркі збудаваць дзявятку, трэба ўжо мець тую дзявятку. Чым больш картаў збярэш, тым больш балаў-ачкоў здабываеш. Дадатковая можна атрымаць пункты за віно. Дзясятка званковая варта два ачкі, кожны ас гэта ачко. Караля можна забраць каралём, аса — асам. Ідзе пра тое, што адзін другому забірае будоўлю. Тут важна, каб добра лічыць і сачыць за разыходам карт. Ёсць чатыры дзясяткі, хтосьці будуе дзясятку, ужо зрабіў вялікую будоўлю і раптам хтосьці гэта ўсё забірае». Як кажа чэмпіён Станіслаў, карта не свіння, раніцай пацягне.

Удзельнікі турніру заўсёды падыходзяць да справы надта эмацыянальна. Тут ідзе не толькі пра чэмпіянат Крынак, але і цэлага свету!

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Наймалодшыя ігракі

## Фэсту ў Чаромсе не будзе

Шматгадовай традыцыяй стала арганізаванне ў Чаромсе беларускіх народных фэстаў. З таго, што мне вядома, запланаваны фэст на 3 жніўня не адбудзецца. А якая прычына?...

Патэлефанаваў я ў гміну войту.

— У чым праблема? — пытаю.

— Гэта не так, што гміна адмаўляецца ад саўдзельніцтва ў арганізаванні беларускага фэсту, — тлумачыць войт Юры Шыкула. — Арганізатар мерапрыемства, гавару аб Беларускім грамадска-культурным таварыстве, у час тэлефоннай размовы запатрабаваў стандартную сцэну з абслугай. Яе кошт — дзве з паловай тысячы. Апрача таго аплата выступу замежнага (беларускага) калектыву — другое столькі. Затым трэба дабавіць харчаванне для выступаючых артыстаў. Паводле майго меркавання, мерапрыемства каштавала б да шасці тысяч злотых. Гміне сёлета такі выдатак не пад сілу, — працягвае кіраўнік самаўрада. — Нядаўна адрамантавалі мы ў вёсцы Чаромсе вуліцу. Паламаны асфальт і дзіркі ў дарозе пагражалі катастрофай. Жыхары восенню мінулага года прад'явілі пастулат неадкладнага рамонту ўхабістага адрэзка дарогі. Солтыс вынесла гэтую праблему на пасяджэнні Рады гміны. Радныя вырашылі рамонт вясковай вуліцы запісаць у план цякучых задач. Мы ад саўдзельніцтва ў арганізацыі беларускіх народных фэстаў не адмаўляемся, — завяршае Юры Шыкула. — Ад асноўнага арганізатара залежыць толькі як з партнёрам падзеліць кошты.

На маю думку, разважанні абгрунтаваныя. Самаўрад дбае пра выкананне абяцанняў, дадзеных выбаршчыкам. Тым больш, што справа тычыцца бяспекі на дарозе. Шкада адно, што Беларускае таварыства ў вырашэнні праблемы не дайшло да кампрамісу з Гмінным асяродкам культуры. Пакрыўджаным застаслося грамадства. А гэтага быць не павінна, бо чарамшане станоўча ставяцца да нацыянальных культурных мерапрыемстваў. Аб гэтым сведчыць прысутнасць на такога роду імпрэзах.

**Уладзімір СІДАРУК**




# Сёмая «Актава»

У сёмы раз сем дзён жыхары Беластока і больш за дваццаці падляшскіх мясцовасцей мелі магчымасць удзельнічаць у святкаванні народнай культуры, то-бок Міжнародным фестывалі музыкі, мастацтва і фальклору Падляшскай актаве культур. Традыцыйна фестываль адкрыўся рознакаляровым парадам камандудзельніц з многіх краін Еўропы ад Адыгеі, Грузіі, Расіі, Літвы і Украіны да Македоніі, Балгарыі, Сербіі, Босніі і Герцагавіны ды Аўстрыі. Выступілі, вядома, таксама польскія мастакі. З Беларусі прыехала лідская «Талака». Па невядомых прычынах не даехала абвешчаная зараней «Вязанка» з Мінска.




Актаву» запусціў (21 ліпеня) канцэрт японкі Маміко Уеяма, лаўрэаткі шматлікіх міжнародных фартэпіянных канцэртаў. У сваім музычным падарожжы па Еўропе ў «Сподках» віртуозна выканала яна таксама творы Шапэна. На наступны дзень парад калектываў з іх нацыянальнымі сцягамі як звычайна рушыў у Беластоку з-пад каталіцкай кафедры на плошчу перад ратушай, дзе на расстаўленай сцэне пачаліся фестывальныя выступленні неўзабаве пасля афіцыйнага адкрыцця «Актавы» дырэктарам фестывалю Анджэем Дырдалам, маршалкам Падляшша Яраславам Дважанскім, прэзідэнтам Беластока Тадэвушам Трускаляскім і новым дырэктарам Ваяводскага асяродка анімацыі культуры (ВААК) Цэзарыем Мелькам (ВААК з'яўляецца арганізатарам мерапрыемства). Асабліва горача беластачане і турысты прывіталі маршыруючы тэатральны калектыў з Украіны «Берэгіня», складзены са спевакоў, музыкаў і танцораў у традыцыйных украінскіх касцюмах. Гарачыя апладысменты пачуліся, калі яе члены з гонарам, падымаючы ўверх жоўта-сінія сцягі, усклікнулі «Слава Украіне!»

Якраз перад пачаткам мерапрыемства, якое выклікала вялікую цікавасць публікі, Анджэй Дырдал заявіў журналістам:

— Мастацкая рада Фестывалю запрасіла ў гэтым годзе цудоўныя калектывы. Для кожнага будзе нешта мілае і паслухаць, і паглядзець. Перш за ўсё праз гэты фестываль мы хочам інтэграваць наша грамадства і паказаць іншую культуру. У Падляшскім ваяводстве шмат нацыянальнасцей, якія пражываюць тут на працягу многіх гадоў. У першых выпусках мы хацелі паказаць прадстаўніцтва кожнай з краін, да якой гэтыя меншасці маюць дачыненне. Цяпер у нас наладзіліся кантакты з усёй Еўропай, Азіяй і Паўднёвай Амерыкай. Увесь свет можа прыехаць да нас.

Адзначыў:

— У меншых мясцовасцях увесь год людзі чакаюць калектываў. Там менш магчымасцей запрасіць іх, таму што гэта высокія выдаткі. Карыстаемся нагодай, паколькі калектывы з радасцю выступаюць у малых мясцовасцях, каб тамашнім людзям прынесці радасць.

У сёлетнім выпуску «Актавы» мелі прыняць удзел дзве каманды з Беларусі. Ужо на першы дзень было абвешчана выступленне ансамбля песні і танца «Вязанка», заснаванага ў 1972 годзе. Яго касцяк складаюць у асноўным маладыя людзі, якія пад акампанемент інструментальнага ансамбля выконваюць у асноўным беларускія песні і танцы. Нечакана палатка-перапранальня на баку прыратушнай сцэны з таблічкай з назвай групы была пустая. Што здарылася, што «Вязанка» не даехала? Анджэй Дырдал за пяць хвілін да адкрыцця фестывалю патлумачыў «Ніве»:

— Не ведаем. З учарашняга вечара нашы людзі чакалі прыезду ансамбля. Мы шукалі кантакту з яго кіраўніцтвам. Ніхто не даў нам знаку, што здарылася, чаму. Гэта адбылося ўпершыню за апошнія сем гадоў. Нам вельмі прыкра, таму што па крайняй меры маглі нам паведаміць, што не прыедуць, таму што тады мы змаглі б запрасіць іншы ансамбль з Беларусі.

А, можа, гэтая дзіўная адсутнасць звязана з праблемамі ў атрыманні польскіх віз, распытвалі мы.

— Я не ведаю. Я проста не ведаю. Калі ў ансамбля з Ліды былі праблемы, іх кіраўніцтва патэлефанавала, мы пагаварылі з нашым консулам у Гродне, які хутка вырашыў справу і ансамбль прыехаў. Ва ўсякім выпадку, ніколі не было ніякіх праблем з візамі або чым іншым з прыездам калектыву з Беларусі. Заўсёды афармлялі мы ўсё праз Польскі інстытут у Мінску або іншымі дарогамі.

Затое ў той час на «Актаву» дабраўся другі з запрошаных калектываў з Беларусі — «Талака». Яго мастацкі кіраўнік Вальдэмар Захаркевіч расказваў нам пра групу:

— Прадстаўляем лідскую электрычную сетку. У наступным годзе мы будзем адзначаць дваццацігоддзе існавання. Мы прыбылі ў Польшчу ўпершыню і нам вельмі тут падабаецца цудоўная атмасфера. Мы — беларускі ансамбль і ў нас ёсць у рэпертуары беларускія песні і танцы, у асноўным Прынёманскага краю. Дзейнічаем у стылізаваных касцюмах у падабенства такіх, якія насіла шляхта. Выконваем таксама кампазіцыі, спалучэнні песень і танцаў паводле абрадаў Беларусі: талакі і валачобнікаў. Члены каманды не з'яўляюцца прафесіяналамі, яны прадстаўляюць розныя прафесіі. Гэта і электрыкі, і кіроўцы, і цесляры, і бухгалтары, і інжынеры... Усіх нас яднае любоў да беларускіх песень і танцаў.

Марына Лесагор, харэограф ансамбля:

— Мы таксама выконваем рускія, украінскія або малдаўскія танцы. Ёсць таксама адзін беларуска-польскі, але ў асноўным беларускія народныя такія, як лявоніха, гарадзенская мазурка, полька. Стараемся мець уласны твар, не паўтараць песень і танцаў іншых калектываў, але і не сачыняць сваіх. Наш хормайстра капае глыбока, вывучае разнародны фальклорны матэрыял, і на яго аснове апрацоўвае яго.

Уладзімір Гарачаў, кіраўнік хору:

— Матэрыял мы ў асноўным бярэм са свайго рэгіёна: перарабляем нешта, нешта дадаем. Каб маладыя людзі, па меншай меры ў нас, хацелі слухаць фальклор, трэба трошкі дадаць нешта сучаснае, што называецца стылізацыяй.

Ірына Бяскостая, сяброўка ансамбля:

— У Беластоку прыбылі мы ў крыху скарочаным складзе. З інструментальнай групай каманда складаецца з каля шасцідзесяці чалавек. Я ў групе з 1995 года, гэта значыць з самага пачатку, і па прафесіі я інжынер сувязі. Рэпетыцыі маем два разы на тыдзень, але да вялікіх выступаў, часцей, нават — як да прыезду сюды, у Беласток — кожны дзень. Чым больш насычана жыццё, тым лепш яно арганізавана. Удзел у групе не перашкаджае нікому ў паўсядзённай працы, і наадварот — упрыгожвае яе і жыццё.

Настасся Вайкевіч, сяброўка ансамбля:

— Я ў «Талацэ» дзесяць гадоў. Кожны дзень я выхавацелька ў інтэрнаце. У ансамблі маем таксама паэтаў, чые песні таксама выконваем. Усе сябруем. У нашым ансамблі многа палякаў і каталікоў. Не памылюся сказаўшы, што палова.

У апошні дзень фестывалю Мастацкая рада (Беларусь прадстаўляе ў ёй праф. Яўгенія Гарбунова з каледжа пры Музычнай кансерваторыі ў Мінску) узнагародзіла дзесяць калектываў. У якасці ўзнагароды яны выступілі ў гала-канцэрце. Сярод іх апынулася таксама «Талака».

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Мілейчычы — забыты курорт

Спасылаючыся на цікавы рэпартаж Аляксандра Вярбіцкага „Карцінкі з глыбінкі (6)" у 27 нумары „Нівы", хочацца мне прыпомніць невядомую пасля вайны ролю мястэчка Мілейчычы ў якасці летняга курорта. Звязанае гэта было з яўрэямі, якія ў вялікай колькасці насялялі нашае Падляшша. Карыстаюся даваенным турыстычным даведнікам па Беластоцкім ваяводстве аўтарства Мечыслава Арловіча.

Мілейчычы ў даведніку пазначаны як „у вялікай колькасці наведванае лецішча", якое ў другой палове XIX стагоддзя налічвала 2085 жыхароў, у тым ліку 1002 праваслаўных, 894 яўрэяў і 187 католікаў. „Прысутнасць дачнікаў, у пераважнай колькасці яўрэяў, дасягала (...) да 1500 чалавек на працягу сезона з розных гарадоў, перш за ўсё з Беластока, Бельска, Ваўкавыска і Сямятыч, часткова нават з Варшавы і Седльцаў". У прымыкаючым да мястэчка лесе ўзнікла тады больш за дваццаць дач і пансіёнаў, у якіх разам было больш за 200 пакояў. Працавалі пансіёны Хаіма Стрыкоўскага, Ізаака Розенцвага і Янкеля Сакалоўскага, кухні, якія рыхтавалі абеды і вячэры, а таксама дачныя вілы Зельмана Сехана, Швейны Ойшпетара, Бейлы Шымонавіч, Шамкі Плотніцкага, Добы Байзнер і Шымона Карпа, Марыі Гусяцкай, Шлёмы Бірэнбаўма, Бафтуля Залішанскага, Хаіма Вайнера, Альтара Вайнера, Манеса Такарскага і Анны Кош. Наўмысна прыгадваю ўсе гэтыя прозвішчы, таму што цяпер гучаць яны неяк экзатычна, „пахнуць" светам, з якім ужо не сустракаемся...

Ні па гэтых людзях, ні па дачах няма ў цяперашніх Мілейчычах ніводнага следу, а і з саміх жыхароў мала хто памятае аб былой славе і ролі мястэчка.

**М. Ц.**

# Лібералізацыя па-беларуску: на мяжы канфіскавалі „Ніву"

Удзельнікаў летніка „За еўрапейскую інтэграцыю Беларусі" спынілі на мяжы. Прычынай сталі беларускія выданні. Некалькі чалавек вярталіся з Польшчы праз памежны пераход у Бабroўніках — там іх багажом зацікавілася памежніца.

Кажа старшыня Слонімскай суполкі БНФ Павел Севасцьян:

— Калі „чырвоны" канал фактычна ўжо прайшлі, памежніца пачала пераглядаць нашыя торбы. Пагглядзела, газеты былі — тыднёвік беларусаў у Польшчы «Ніва», кнігі былі, у кожнай торбе кожнага чалавека патроху. Пазнаходзіла ў кожнага, усё затрымалі, будуць глядзець, потым сказалі вернуць. Узялі прачытаць на нейкую цэнзуру, можа там нешта супраць улады.

Сярод матэрыялаў, якія памежнікі забралі для праверкі, сярод іншага асобнікі кнігі пра палітычных зняволеных у Беларусі „Palitviazni.info". Актывісты вярталіся з летніка, які быў арганізаваны альянсам „Грамадзянская Гарадзеншчына" і праходзіў пад Семяноўкай у гміне Нараўка.

**Беларускае Радыё РАЦЫЯ**

№ 31 [03-08-2014]

# Таямнічая сустрэча з прадзедам

Адной раніцы Оля, Віка і Габрыся пайшлі на горку, каб пакатацца на санках. Дзяўчаткі не ведалі, што на гары знаходзяцца старыя габрэйскія могілкі. Оля першая села на санкі. Яна перавярнулася аб нейкі камень, ды пабачыла магілку. Дзяўчынка дастала з кішэні мабільнік і сфатаграфавала надпіс на камені. Пасля, калі вярнулася дахаты, яна паказала фотачку бацькам. Яе бацька ведаў іўрыт — габрэйскае пісьмо, таму без цяжкасці ён прачытаў, што там напісана. У гэтым месцы быў пахаваны Ваўрынец Дзмітрук. Бацька спачатку маўчаў, а пасля доўга хадзіў па хаце, аж урэшце сказаў дачушцы:



— Гэта неверагодна, там пахаваны твой прадзед.

Сям'я здаўна шукала гэтай магілкі па цэлым свеце, а яна знаходзілася тут, непадалёк іх хаты. На наступны дзень Оля сама пайшла на горку. Яна зайшла да магілкі прадзеда і пачала маліцца аб супакаенне яго душы. Уначы ёй прысніўся прадзед. Ён быў падобны да яе бацькі. Ён гаварыў з ёй па-беларуску. Ён сказаў, каб дзеці не тапталі могілак і занадта там не крычалі, не буянілі...

Оля расказала пра ўсё Віцы і Габрысі. На наступны дзень дзяўчаткі занеслі на магілку па каменьчыку. Яны ўшанавалі памяць па нябожчыку, так як робяць гэта габрэі.

**Оля САЛАВЯНЮК**
*— „Пушчанскі голас"*

# Вершы Віктара Шведа

## Ці быў ты ў заапарку?

— Ці быў ты ў заапарку ?
Ці там мядзведзя ўгледзеў,
І ці даў у падарку
Ласуначак мядзведзю?

— Мой мілы дружа Федзя,
Я не адважны гэткі,
Каб мог да мядзведзя
Заходзіць у клетку.

## Што найбольш падабалася?

Дзеці ў школе спыталіся
Летуценнага Ярка:
— Што найбольш падабалася
У гарадскім заапарку?

Быў адказ нечаканы,
Ніхто не браў яго ва ўлік
— Хіба той дзядзька п'яны
Што паказваў малпе язык.

## Верны сабака

Прадаваў сабаку Якаў,
Пакупнік ведаць хоча:
— А ці верны твой сабака,
Ці да працы ён ахвочы?

— Дык ён верны нечувана,
У тым я пераканаўся.
Тры разы мяняў ён пана,
Да мяне заўжды вяртаўся.

## Грошы і розум

Настаўнік школьных дзетак
Запытаўся гэтак:
— Калі б вы на дарозе
Знайшлі грошы і розум?

— Я ўзяў бы грошы,
— сцвердзіў Ясь,
— А розум я, — сказаў Адась.
Падказка Мікалая:
— Узялі — чаго не маюць.

# Паэты любяць простыя рэчы

На Сустрэчы „Зоркі" завіталі да нас асаблівыя госці — тройка вялікіх паэтаў: Міра Лукша, Віктар Швед і Віктар Стахвюк. Яны — беларускія паэты і ўсе належаць да літаратурнага аб'яднання „Белавежа".

Мы ўзялі ў іх інтэрв'ю. Пэўныя адказы нас здзівілі. Гэтыя слаўныя людзі любяць простыя рэчы. Міра Лукша любіць гуляць з коцікамі — гэтыя жывінкі часта становяцца героямі яе вершаў і апавяданняў. Спадар Стахвюк захапляецца падляшскімі птушкамі і драпежнымі акуламі, якія жывуць у акіянах. Спадар Віктар Швед найбольш любіць дзяцей. Ён піша для іх толькі вясёлыя вершы, бо — як кажа — у жыцці яны яшчэ паспеюць насумавацца. Усе госці ахвотна жартавалі і раілі нам, каб мы развівалі свае здольнасці. Мы таксама пачулі многа вершаў, якія паэты прачыталі з памяці.

**Юстына МАРЧУК**
*— „Сустрачанская скрыня"*



Злева: Віктар ШВЕД, Міра ЛУКША, Віктар СТАХВЮК

**Міра ЛУКША**

## У садку

**Маргарытка жоўтым вочкам
моргае да нас у садочку.
Побач яблык круглабокі
на траве румяніць шчокі.
Аксамітам спее сліва.
І сад дрэмле, увесь шчаслівы.
А тут — залатая грушка...
Пчолка зумкае і мушка...
Сонца ў хмарках залатое
налівае сад спакоем,
і пагодай,
і лагодай...
Загараюць Крыся з Мілай,
каб набрацца ў сонца сілы.
Пачастуе ўсіх нас з вамі
сад здаровымі пладамі.
Вышыем на памяць кветку,
маргарытку, на сурвэтку.**

# Польска-беларуская крыжаванка № 31

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 27:**

Як, лісічкі, суніцы, калонка, рака. Лука, мінак, сіла, ліцо, чынш, як, Кітай.

Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграў **Мацейка Цілюлька** з Беластока.

Żagiel, Ręce, Koza, Język, Wir, Wiek, Magik, Kuma, Czoło, Mleko, Bierz, Arka, Lody, Miss, Warga, Mi, Ar, Szczyt, Święto

# КУЛЬТУРА
## НА ЧЫГУНАЧНАЙ СТАНЦЫІ

**Размова з Уладзімірам КЛІМЮКОМ, былым чыгуначнікам, загадчыкам чыгуначнай святліцы на станцыі Нараўка.**


Станцыя ў Нараўцы ў міжваенны час (Фота з дамашняга архіва Уладзіміра Клімюка)

**— Вы былі калісь ладзілі працу святліцы на чыгуначнай станцыі Нараўка. Як Вы трапілі ў тое месца?**

— Я раней працаваў пуцявым рабочым на чыгунцы. А на станцыі Нараўка трэба было праводзіць некаторыя мерапрыемствы, напрыклад сходы, якіх не было дзе ладзіць. А станцыйны барак быў вялікі. І вось прыехалі прафсаюзныя дзеячы з Седльцаў, бо там былі нашы чыгуначныя ўлады, і зрабілі выснову, што ў нас трэба арганізаваць святліцу. Не было каго, то мне запрапанавалі гэту задачу, на паўстаўкі. Паколькі было мне блізка, дык я прыняў гэты выклік. І тую святліцу трэба было арганізаваць з нічога — гэта была цяжкая задача. Былі адно сцены, і трэба было тыя сцены неяк выстраіць, усё абсталяванне, сцэну, асвятленне, афармленне, трое дзвярэй — бо тут былі толькі адны дзверы з калідора, а мусілі быць адны дзверы і непасрэдна навонкі, на выпадак пажару. І на сцэну павінны былі быць асобныя дзверы выступоўцам.

**— То тут і сцэна была?**

— Была, невысокая, паўметровай вышыні.

**— А скажыце мне, як гэты барак паставілі? Яго ставілі пасля вайны...**

Немцы, як адступалі, то ўсё разбурылі. Узрывалі яны масты, рвалі рэйкі, разбурылі вадакачку, вакзал — усё знішчылі, каб не пакінуць транспартнай інфраструктуры.

**— А ў якім годзе паставілі той барак?**

— У 1945 годзе, неўзабаве пасля вызвалення, прывезлі гатовыя элементы: сцены па паўтара-два метры, вокны. Калі я быў у Германіі, то таксама ў такіх бараках жыў, складаных з элементаў. Шырыні ў яго было дзесяць-дванаццаць метраў, пасярэдзіне быў калідор, а па-абапал яго былі залы шырынёю каля чатырох метраў; барак меў даўжыню каля трыццаці метраў. Тут быў і другі барак, дзе цяпер пункт прыёму металалому, але гэта быў жылы барак — жылі ў ім людзі з Чаромхі, з Гайнаўкі. І яшчэ быў будынак, перавезены ад тартака, што раней стаяў за пераездам, і ў тым будынку жылі загадчыкі станцыі.

**— Вы мне калісь згадвалі, што драўніну ў той тартак прывозілі аднекуль з-за рэчкі Нарвы, з-за Бандароў...**

— З Бахуроў. І мелі класці вузкакалейку, ужо да Новага Ляўкова праклалі. Там было многа лесу, а адсюль, ад Белавежскай пушчы, Герынг забараніў, бо яна была яго.

**— То як тую драўніну ад Бахуроў вазілі сюды?**

— Хіба фурманкамі. Дакладна не ведаю, бо нас неўзабаве пасля прыходу немцаў выселілі адсюль у Астраўкі, што каля Заблудава, пасля трапіў я ў Германію, адкуль вярнуўся ў ліпені 1944 года.

**— Да вывазу Вас у Германію на прымусовыя работы Вы нейкі час жылі ў Тарнопалі. У першых тыднях нямецкай акупацыі каля Тарнопаля немцы расстралялі каля паўтара дзясятка жыхароў Лукі. Ці Вам што вядома, чаму так сталася?**

— Гэта былі людзі, якія ў савецкі час дзейнічалі ў тамашнім сельсавеце. І калі прыйшлі немцы, то іх удаў Гайдучэня з Людвінова, што гэта камуністы. І іх немцы пабілі. А пасля партызаны забілі таго Гайдучэню, а ягоную хату спалілі.

**— Вернемся тады да святліцы. У памяшканні пад святліцу былі голыя сцены і трэба было ўсё там прыстасаваць для святлічных функцый. І як гэта Вы арганізавалі; напрыклад — хто рабіў сцэну? Ці трэба было яе заказваць недзе ў сядлецкай дырэкцыі, ці як?**

— Тут было многа моладзі, у іх ліку дзеці мясцовых чыгуначных загадчыкаў — Гарбалінскага і Леўшы, ды іншых... Сцэну і маляванне сцен выканалі чыгуначнікі, а вось ужо пра аснашчэнне святліцы то я сам мусіў хадайнічаць. Такі, стары ўжо, тэлевізар „Вавель" то я з Варшавы цягнуў.

**— А адкуль былі грошы на працу святліцы?**

— У Седльцах было сацыяльна-бытавое аддзяленне, яно курыравала чыгуначныя буфеты, дзіцячыя канікулы і т.п, і адтуль былі грошы. Трэба было прыдбаць музычныя інструменты...

**— Якія гэта былі інструменты?**

— Былі гітары, скрыпкі, два акардэоны, мандаліны. Прыязджаў з Гайнаўкі інструктар Маеўскі, вёў ансамбль.

**— Быў гэта толькі інструментальны ансамбль, ці большы?**

— Спявалі таксама.

**— У ансамблі займаліся толькі дзеці чыгуначнікаў?**

— Усе, хто хацеў. І з Міклашэва былі, і з Сушчага Барка, напрыклад Данка Грыка, што цяпер у Беластоку [Данута Шымчык, сяброўка беластоцкага хору „Крыніца" пры ГП БГКТ — А. В.], з Нараўкі Оля ЗдаНоўская [Вольга Місяюк, зараз старшыня Таварыства прыхільнікаў Нараўчанскай зямлі — А. В.], было двое дзяцей нават са Скупава, шмат было. І была ў мяне бібліятэка. Пазычаў я кнігі з большых бібліятэк, што дзейнічалі ў Седльцах і Чаромсе. І беларускія кнігі былі.

**— А адкуль Вы бралі беларускія кнігі?**

— З Нараўкі пазычаў.

**— То сваіх кніжных фондаў Ваша бібліятэка не мела?**

— У мяне было сто ці пяцьдзясят кніжак і я што нейкі час, праз год-два, абменьваў тыя кніжкі ў згаданых большых бібліятэках. Была і прэса, савецкая — „Огонёк", „Вокруг света", „Известия" — і польская — „Беластоцкая", „Трыбуна"...
Праходзілі тут курсы фурманоў. І двухгадовыя сельскагаспадарчыя курсы; вялі іх спецыялісты з Гайнаўкі. А вось вадзіцельскія курсы адбываліся ў Семяноўцы. Ладзілі Дзень жанчын, 1 Мая, 22 Ліпеня, 12 Кастрычніка, запусты, вечарыны, патанцоўкі. І больш масавыя мерапрыемствы трэба было ўзгадняць з міліцыяй і Службай аховы чыгункі, каб забяспечыць на выпадак нейкай авантуры.

**— А бывалі такія?**

— Не, не здарылася. А пасля, летам, было цесна, горача, і я падумаў пабудаваць танцавальную пляцоўку, тут, у лесе.

**— Бліжэй чыгуначнага моста на Нараўцы?**

— Не, тут, зараз, дзе цяпер пункт прыёму металалому. І каб нават такую, здавалася б, нескладаную справу прасунуць, як пабудова танцавальнай пляцоўкі, то трэба было нахадзіцца, бо ж нішто само па сабе не зробіцца. Гэта ўласная ініцыятыва і сядлецкая дырэкцыя не загадае гэта рабіць чыгуначнаму персаналу. Аднак людзей удалося намовіць да гэтага пачыну.
У кожную сераду ў святліцу прыязджала кінаперасоўка. Зразу было многа людзей, а пасля, як людзі сталі купляць тэлевізары, то штораз менш. Былі Шустэр Франак, Бяглюк Шура, вазілі падводай, і сталі гаварыць, што на фурманку не заробяць...

**— Цераз сцяну ад святліцы быў буфет, у які прыходзіла шмат народу...**

— Прыходзілі, бо быў рух, былі рампы, хадзілі таварныя цягнікі. Сталі яны хадзіць уж ў 1954 годзе, калі, пасля ўстанаўлення граніцы, пабудавалі тут перагрузачныя рампы.

**— А зараз пасля вайны — як доўга сшывалі гэтую лінію, каб сюдою маглі цягнікі хадзіць?**

— Мо з год часу.

**— Але пасажырскія цягнікі то доўга не хадзілі...**

— Пакуль пабудавалі масты, бо зараз пасля фронту адно драўляныя масты паставілі савецкія сапёры. У Семяноўцы пабудавалі два масты: адзін з нармальнай чыгуначнай каляёю, а другі з шырокай. І вадакачку ў Семяноўцы пабудавалі, і ў Гайнаўцы.

**— А цяпер я спытаю Вас пра іншае. Ці калісь, яшчэ пры цары, не перасялялі куды мясцовых вёсак, напрыклад Лясной?**

— Перасялялі, напрыклад Плянту насялілі жыхарамі Скупава. Цар быў загадаў выселіць Скупава, каб там адно лес быў. І добра перасяленцам плацілі. Частка скупаўчан паехала на Валынь, там знайшлі маёнтак, які купілі і там пасяліліся. А тут, у Плянце, таксама быў пан, здаецца Быкаў, і ён тут таксама прадаваў і некалькіх скупаўчан купіла гэтую Плянту, пабралі па трыццаць-пяцьдзясят гектараў нават. Паўлючук, Каты, Нічыпарук, Барэчка і Казёл — яны гэтую Плянту раскупілі.

**— Але Скупава ўсё не выбралася...**

— Бо крыху справа адцягвалася, успыхнула вайна 1914 года і так усё асталося.

**— Тут, на Плянце, быў млын, Гавенчыка. Ці Вы чулі, калі той млын быў пастаўлены?**

— Той Гавенчык, ён сам выводзіўся з Бахуроў, быў у Амерыцы. Там зарабіў і хацеў той капітал кудысь укласці. Калі ён той млын пабудаваў — не ведаю, але калі я быў хлапчуком, то ўжо тата ў той млын вазіў малоць; то было ў 1930-х гадах. У яго было дзве дачкі: Валя і Галіна. То я ім зайздросціў, бо мне часамі і хлеба бракавала — мама хварэла, тата будаваўся. І я захварэў, то мяне жыды ўратавалі. У 1939 годзе прыйшлі саветы, то ад Гавенчыка той млын забралі і заведуюшчым паставілі Сухадолу з Падляўкоўя; Гавенчык мо таксама там рабіў. Бо іх двух было: Грыцук Антон і Гавенчык. Грыцук Юльян меў трох сыноў — Аляксея, Мікалая і Антона — і тры або чатыры дачкі. Антон тут астаўся і з Гавенчыкам млын вёў.

**— А ці Вы Аляксея Грыцука зналі?**

— Не, не меў я з ім ніякага кантакту.

**— Гавенчык малоў і пасля вайны, але неяк так сталася, што перастаў малоць.**

— Той млын згарэў, яго адбудавалі, але не такі як быў. Людзі сталі запасацца драбілкамі, у Семяноўцы адкрыў млын Кот, і ў Нараўцы быў водны млын, некаторыя вазілі малоць у Бандары, Бура там быў, малоў і Шумскі ў Гайнаўцы...

**— Каля Бандароў тады хіба моста не было, ездзілі хіба ўброд...**

— Пры маёй памяці быў драўляны мост. Там былі дзве рэчкі — галоўная рэчка і аднога. Тую аднoгу былі засыпалі і зрабілі адзін мост.

**— Вы згадалі, што Вы захварэлі і Вас вылечылі нараўчанскія жыды. Як гэта было?**

— Мне было бадай чатыры гады, як я захварэў і тата завёз мяне да лекара ў Нараў-

працяг ☞11

# ВАЙНА І ЧЫГУНКА (ч. I)

## Успаміны Уладзіміра КЛІМЮКА, народжанага 18 лістапада 1923 года ў Цісоўцы, сына Іосіфа і Анастасіі.


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

У нядзелю 22 чэрвеня 1941 года быў сонечны дзень. На досвітку Германія, кіраваная канцлерам Адольфам Гітлерам, напала знянацку на Савецкі Саюз і Вермахт перакрочыў граніцу. Нападзенне было добра спланавана і магутнае наступленне сухапутных войск і авіяцыі немцаў спаралізавала абарону савецкіх войск і прымусіла іх адступаць на ўсход, углыб сваёй тэрыторыі. Савецкае камандаванне не ведала што дзеецца, бо ж у жніўні 1939 года быў падпісаны міністрамі абедзвюх дзяржаў, Рыбентропам і Молатавым, дагавор аб ненападзенні.

У Нараўку немцы ўступілі, а хутчэй за ўсё — прыехалі, пасля некалькіх дзён. Чыгуначны мост на рацэ Нараўцы ахоўвалі савецкія салдаты, якія кватараваліся ў бункеры каля моста, а афіцэры з сем'ямі наймалі прыватныя кватэры ў жыхароў вёскі Плянта. На ўзгорку край моста стаяла зенітная батарэя. Бачыў я, як нямецкія самалёты луналі высока ў белы дзень, а снарады з зенітак рваліся недалёка ад самалётаў, не сягаючы, аднак, цэляў. Моста немцы не бамбілі, бо ведалі, што за некалькі дзён ім спатрэбіцца для транспарту вайсковых эшалонаў у напрамку Масквы. Адзін самалёт пікіраваў уніз, так як каршун нападае на курэй, і скінуў тры бомбы. Адна ўпала ў суседаў агарод, каля двухсот метраў ад чыгуначнага вакзала, але нічога не пашкодзіла, а яма ад яе была неглыбокая, бо грунт быў пясочны і сухі. Дзве іншыя бомбы ўпалі каля двух кіламетраў за станцыяй, на сенажаці ў Лазовым; там варонкі былі вялікія, але мост не быў пашкоджаны.

Немцы, заняўшы нашы тэрыторыі, арганізавалі сваю ўладу ў вёсках, гмінах і гарадах. На чыгунцы працавалі немцы і мясцовыя рабочыя. Вясковае жыццё чакалі змены. Пайшла чутка, што немцы будуць высяляць насельніцтва з пушчанскіх вёсак, а будынкі будуць спалены. У канцы ліпеня 1941 года грымнула вестка, што былі пацыфікаваны Старое і Новае Масева, іх жыхароў вывезлі фурманкамі ў невядомым напрамку, а гаспадарчыя і жылыя будынкі спалілі. Людзі сталі гаварыць, што будуць высяляць і чарговыя вёскі, у тым ліку і Плянту.

Бацька, падумаўшы, адвёў каня з возам на гаспадарку свайго роднага брата Міхала ў Юшкаў Груд. Мой старэйшы брат Іосіф вёў пасеку з некалькіх вулляў і вельмі дбаў пра сваіх невялікіх, але надта працавітых пчолак. Апасаючыся знішчэння сваёй пасекі, вывез ён яе ў вёску Багнюкі, да бацькавых знаёмых Аляксандра і Анны Багнюкоў, што жылі ў першай хаце ад Бандароў. Анна, дачка Юрыя Харкевіча з Сушчы, была роднай сястрой Васіля, які ажаніўся з маёй дваюараднай сястрой Марыяй з Плянты, дачкой Рыгора і Анны Грыкаў; апошняя была роднай сястрой маёй мамы Анастасіі з сям'і Засімаў з Тарнопаля.

Першыя дні вайны праходзілі з апаскай, што прынясе чарговы дзень. Жыта стаяла ў ляшках, а сена не касілі; і так безнадзейна жылі з дня на дзень. Фронт быў ужо недзе пад Мінскам, бо саветам у пачатках вайны не ўдавалася наладзіць абаронных ліній. Весткі з фронту паходзілі ад немцаў, якія заяўлялі, што Новы 1942 год будуць праводзіць у Маскве. Бацькі ды старэйшыя жыхары маёй вёскі былі засмучаны такім ходам падзей, не спадзяваючыся нічога добрага ў сялянскім і рабочым жыцці. А мы, моладзь пры бацьках, жылі, можна сказаць, бестурботна, але ўсё ж такі прыгнечаныя няпэўнай будучыняй.

Надышоў злавесны дзень 1 жніўня 1941 года. Раніцай нашу вёску Плянту разам з хутарамі ачапіла войска. У нашу хату з'явіліся два салдаты і далі павестку, напісаную па-нямецку, па-польску і па-руску ці па-беларуску — гэтага не помню. Паведамлялася там, што цягам дзвюх гадзін маем спакавацца, забраць з сабой вопратку і харчы, але адно столькі, колькі змесціцца на адным возе; дазволілі забраць таксама карову. Бацька стаў прасіць немцаў, што яго жонка, мая мама Анастасія хворая і не можа ісці. Тады далі нам дзве падводы са Старога Ляўкова, Немцуновіча і Марціновіча. Гаспадары гэтыя памагалі нам грузіцца, коней яны мелі добрых, адкормленых. Забралі мы з сабой вопратку, якой у той час не было зноў так і многа, муку, кашу, крыху збожжа, ложак, стол, шафку, табурэткі і кухонную пасуду. Каля поўдня наш абоз рушыў у невядомае; за возам крочыла і наша кароўка. Бацькі ехалі на возе, а мы ішлі побач. Нямецкія канваіры ехалі на веласіпедах, але марная была іх язда, бо часта мусілі злазіць і ісці пяшком побач калоны фурманак.

У той дзень мы даехалі да вёскі Анцуты за Нарваю, немцы загадалі нам пераначаваць на лонцы. Гаспадары пасвілі коней, а мы кароў. На наступны дзень наша калона даехала да вёскі Астраўкі, што каля Заблудава. Немцы мелі спісак, якая сям'я з Плянты да якога гаспадара з Астраўкоў была прызначана. Нас завезлі на хутар да сям'і Самойлікаў. Нашу маёмасць выгрузілі на панадворак і вазакі пад вечар ад'ехалі да сваіх вёсак. У час транспарту харчаваліся мы хлебам і малаком ад сваёй каровы. Вазакі таксама сілкаваліся нашымі харчамі. Развіталіся мы з імі са слязьмі — яны ж не былі віноўнікамі нашага высялення.

Самойлікі былі сужонствам сярэдняга ўзросту, мелі яны сына і дзве падрастаючыя дачкі. Яны ветліва і спачувальна адносіліся да нас, выдзелілі нам асобны пакой, карысталіся мы іхняй кухняй. Гаспадарка іх была сярэдняга маштабу і наёмнай рабочай сілы яны не патрабавалі. Бацька стаў разважаць, што рабіць далей, бо не хацеў, каб мы былі ўтрыманцамі добрых гаспадароў. Вяртацца дадому было нельга, бо за гэта, як паведамлялася ў павестцы аб высяленні, пагражала смяротнае пакаранне.

Побач чыгуначнай станцыі Нараўка было пяць хат. Па-суседску з нашай была хата жыдоў Шлёмы і Нёмы Навасандэцкіх. У іх была служанка Вольга Трусевіч з Міклашэва, у яе быў сын ад Шлёмы Давід або Данель — добра не помню. Далей жылі чыгуначныя пенсіянеры Хадак Андрэй і Наталля. На канцы жыў Лашэўскі Стэфан з жонкай Марыяй і дочкамі Вандай і Барбарай. Лашэўскага з сям'ёй не вывезлі, бо ён добра ведаў нямецкую мову. Народжаны ў Познанскім ваяводстве, у 1920-х гадах купіў у Плянце ад Казла 12 гектараў зямлі ва ўрочышчы Гута. Нашых жылых і гаспадарчых будынкаў не спалілі; пасяліліся ў іх чыгуначныя рабочыя.

Бацька спадзяваўся, што калісь вернемся на сваю маёмасць, а пакуль што трэба перачакаць і перасяліцца бліжэй свайго. Дагаварыўшыся з мамінымі бацькамі Філіпам і Марыяй Засімамі, братам Аляксандрам з ягонай жонкай Аннай ды з братавай Анастасіяй, якой муж Ян Засім загінуў як польскі жаўнер у нямецкім палоне ў 1939 годзе, наша сям'я, пражыўшы ў Астраўках два месяцы, пераехала фурманкай да маміных бацькоў у Тарнопаль. Да дзеда Засіма прыехала таксама яго старэйшая дачка Анна Грыка з сям'ёй, якая таксама была выселена з Плянты. Дзедава хата была невялікая: пакой, спальня і кухня, і цяпер у ёй кватаравалася 17 душ, у тым ліку двое малых дзяцей. Трэба сабе ўявіць, як пракарміць столькі людзей. За стол сядалі пачаргова некалькі груп і елі з адной або дзвюх місак. Вечарам абіралі цэлае вядро бульбы, каб рана было ўжо што варыць.

Найгорш было са спаннем. Вечарам прыносілі два кулі саломы, якую рассцілалі ў пакоі, прасцірадлам было сваёй работы льнянное покрыва, а накрываліся льняной радзюжкай. Вялікай праблемай была сушка намоклай на дажджы вопраткі. Мужчыны ж не заўсёды сядзелі дома, часта трэба было быць у дарозе ці на полі ў час дажджу. Найгорш смярдзелі мокрыя анучы, якімі акручвалі ногі ў гумавыя лапці; сушылі іх у кухні і пры печы ў пакоі. Раніцай салому, на якой спалі, звязвалі ў пучкі, а вечарам прыносілі новыя кулі. Пра гігіену, мыццё, змену бялізны не буду згадваць, бо кожны дарослы ці падлетак можа ўявіць, як гэта адбывалася. Не было ў нас ніякіх наракanняў ці непаразуменняў паміж жанчынамі і апошнімі сямейнікамі. Усё смакавала, а хлеб з намеленай у жорнах мукі быў вялікім ласункам.

У такой цеснаце жылі мы два месяцы. Аднаго дня Тамаш Харкевіч, які жыў па-суседску ў вялікай хаце, сказаў, што яго і ягонай сям'і сумленне не дазваляе, каб мы жылі ў такіх умовах і запрапанаваў нашай сям'і пасяліцца ў ягонай хаце, дзе былі асобныя пакой і кухня ды дзверы навонкі. Для нас гэта быў рай. Спадар Тамаш і ягоная жонка былі кумамі маіх бацькоў. Мая мама была хроснай іх дачкі Марыі. Была ў іх яшчэ дачка Надзея ў маім узросце, а іхні сын Павел трапіў у Армію Андэрса. Пасля вайны выехаў ён з Англіі ў Амерыку, там ажаніўся. Раз толькі прыязджаў наведаць сямейнікаў і больш не прыязджаў. Там ён памёр, але згэтуль ніхто на ягоныя пахавіны не ездзіў.

Спадар Тамаш быў добрым цесляром і сталярам — стаўляў нам хаты: першую ў 1927-1930 гадах, а другую, меншую — шэсць на пяць метраў, у 1933-1934 гадах. Ён добра ведаў як мы жылі, як ставіліся да яго, як яго харчавалі і начавалі. Пасля вайны яму і ягоным дочкам шмат разоў прыходзілася начаваць у нас, калі трэба было рана выехаць ці позна прыехаць поездам на станцыю Нараўка, а ехаць з дому ці дадому фурманкай не было як.

Да станцыі Нараўка людзі прыязджалі з адлегласці нават пятнаццаці кіламетраў. Некаторыя жыхары аддаленых мясцовасцей пражылі ўсё жыццё і ніколі не ездзілі поездам. Жылі самадастаткова — у краме можна было купіць соль, мыла, нафту і селядцы на каляду.

У спадара Тамаша нам жылося добра, але ж трэба было думаць пра будучыню, як здабыць грошы на куплю неабходных тавараў. На сямейнай нарадзе было задумана ўладкаваць мяне на працу на станцыі Нараўка пуцявым работнікам. Было мне тады 18 гадоў і прынялі мяне на працу 1 снежня 1941 года, але не было мне дзе жыць; з Тарнопаля хадзіць на працу на 7-ю гадзіну раніцы было немагчыма. Тады я, нядоўга думаючы, звярнуўся да пана Лашэўскага, каб у яго закватаравацца. Ён згадзіўся; ён сам працаваў на чыгунцы цесляром.

Была ў яго багатая біяграфія. У час Першай сусветнай вайны служыў ён у нямецкай арміі, але ні разу не выстраліў. Пасля вайны служыў у польскім войску, у мастацкім калектыве — ён выдатна спяваў і танцаваў. Сцены ягонай хаты былі з дошак напоўненых пілавіннем, было двое дзвярэй навонкі, тры пакоі і кухня; печы былі цагляныя. У адным з пакояў была яго сталярская майстэрня і там я спаў у збітай з дошак падоўжнай скрыні, напоўненай стружкамі з-пад гэбля, а падушка мая была ад мамы. У суботу пасля працы, у 13 гадзін ішоў я да бацькоў у Тарнопаль, а ў нядзелю вечарам вяртаўся да пана Стэфана. У наплечны мяшок браў я бохан хлеба, ячную кашу, саланіну, сыр — як быў, шмалец, масла і бульбу — каб хапіла на цэлы тыдзень. І так было да часу прызначэння мяне на працу для Германіі за межамі польскай дзяржавы. Пан Лашэўскі не ўзяў ад мяне ні граша кватэрнай платы. Немцы прапанавалі яму, каб стаў у іх перакладчыкам, але ён рашуча адмовіўся — хацеў захаваць чыстае сумленне перад сабой і перад людзьмі. Ведаў ён шмат чаго, але захоўваў гэта толькі сабе.

(працяг будзе)

Спісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Геаграфічныя і асабовыя назвы — культурная спадчына

Закон ад 6 студзеня 2005 г. аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове, які дазваляе побач дзяржаўнай мовы карыстацца мовамі нацыянальных меншасцей у якасці дапаможных, а таксама вяртаць традыцыйныя назвы населеным пунктам, выклікаў зацікаўленасць дыялектнымі назвамі мясцовасцей і разбудзіў надзею на ўвядзенне двухмоўных указальнікаў на тэрыторыі гмін, у якіх пражываюць беларусы ў колькасці не меншай чым 20% ад агульнага ліку насельніцтва. На гэтай хвалі ў 2009 годзе пры Беларускім гістарычным таварыстве была створана Грамадская камісія па справах устанаўлення беларускіх мясцовых назваў, якую ўзначаліў праф. Міхал Кандрацюк — мовазнавец, славіст і балтыст, даследчык усходнеславянскіх ды польскіх гаворак і анамастыкі на польска-беларуска-ўкраінскім і славянска-балцкім паграніччы ў паўночна-ўсходняй Польшчы і ў Беларусі. Ужо з 1958 г. працаваў ён у групе даследчыкаў, якія збіралі дыялектны матэрыял для „Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны". У выніку запісаў ён гаворкі ў больш чым 50 вёсках. У 1961-1969 гг. па даручэнню Камісіі ўстанаўлівання назваў населеных пунктаў пры Упраўе Рады Міністраў праф. Кандрацюк рэгістраваў назвы населеных пунктаў і фізіяграфічных аб'ектаў. Зафіксаваў ён назвы на тэрыторыі тадышніх Бельскага, Гайнаўскага, Дубровскага, Лапскага, Монецкага і Сямятыцкага паветаў.




Галоўнай мэтай Грамадскай камісіі па справах устанаўлення беларускіх мясцовых назваў была дапамога тым гмінным радам, якія хацелі б пакарыстацца законам і ўстанавіць двухмоўныя дарожныя ўказальнікі на польскай і беларускай мовах. Напрыклад, 7 красавіка 2009 г. камісія выязджала ў Орлю, дзе на сустрэчы з самаўрадаўцамі былі ўстаноўлены беларускія назвы населеных пунктаў Арлянскай гміны (арлянскія радныя — адзіныя з ліку 12 самаўрадаў Падляшскага ваяводства — прынялі рашэнне аб устанаўленні двухмоўных дарожных указальнікаў з назвамі мясцовасцей на тэрыторыі гміны). Камісія распрацавала таксама прапановы вяртання гістарычных назваў і перадала іх Камісіі назваў населеных пунктаў і фізіяграфічных аб'ектаў пры Міністэрстве ўнутраных спраў і адміністрацыі. Тады менавіта з'явілася ідэя праф. Міхала Кандрацюка выдаць слоўнік „Афіцыйныя і дыялектныя назвы населеных пунктаў Беласточчыны" („Urzędowe i gwarowe nazwy miejscowości Białostocczyzny"), які выйшаў у 2011 годзе ў выдавецкай серыі Беларускага гістарычнага таварыства. Аўтар працягнуў справу і нядаўна выдаў кнігу „Дыялектныя назвы мясцовасцей Беласточчыны ў алфавітным парадку"*.

Нававыдадзены слоўнік змяшчае супастаўленне дыялектных назваў населеных пунктаў розных тыпаў з афіцыйнымі назвамі, зафіксаванымі Камісіяй назваў населеных пунктаў і фізіяграфічных аб'ектаў. Мэта выдання — шырокая папулярызацыя і адукацыя грамадства, асабліва дзяцей і моладзі, у сферы азнямлення з гісторыяй свайго рэгіёна і месца пражывання, ведання мовы і гаворак, якімі карысталіся бацькі і дзяды, фармаванне пачуцця павагі да сваіх каранёў і культурнай спадчыны. „Азнаямленне шырокага кола насельніцтва з тапаніміяй Беласточчыны, — адзначаецца ва ўступе да слоўніка, — абазначае адначасна пазнанне яе мінулага, гісторыі, паколькі гісторыя грамадства ў вялікай ступені прадстаўлена на картах і планах у выглядзе геаграфічнай наменклатуры. Геаграфічная назва гэта не толькі абазначэнне месца на паверхні зямлі, але таксама гістарычны факт. У кожнай назве закладзены акрэслены сэнс, нейкі змест, натуральныя ўласцівасці асяроддзя, творы матэрыяльнай і духовай культуры ці факт з жыцця першых жыхароў пасялення".

Дыялектныя формы назваў населеных пунктаў Беласточчыны ў асноўным былі сабраны ў 1961-1969 гг. калектывам філолагаў у складзе Міхал Кандрацюк, Міхалай Врублеўскі, Тадэвуш Зданцэвіч і Ян Галубоўскі, пад кірункам праф. Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай. Гэты матэрыял часткова папаўняўся напрацоўкамі Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук у Варшаве, запісамі студэнтаў рускай і беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. Выкарыстаны былі таксама магістарскія дысертацыі па айканіміі паўночнай часткі Беласточчыны, напісаныя пад кірункам аўтара слоўніка, а таксама інфармацыя сабраная ім ад старажылаў на даследаванай тэрыторыі. Сярод сабраных айконімаў у афіцыйнай і дыялектнай форме можна вылучыць назвы генетычна польскія, беларускія, украінскія, рускія, літоўскія і іх гібрыдныя формы: польска-беларускія, польска-ўкраінскія і славянска-балтыйскія, галоўным чынам польска-літоўскія і беларуска-літоўскія.

Увесь слоўнікавы матэрыял змешчаны ў кнізе ў форме табліцы з дзвюх калонак. У першай калонцы ў алфавітным парадку даюцца дыялектныя назвы мясцовасцей у назоўным склоне і вытворныя прыметнікі ад іх. У другой калонцы дыялектным назвам супастаўлены іх афіцыйныя эквіваленты, з указаннем тыпу населенага пункта і яго адміністрацыйнай прыналежнасці да гміны і павета. Слоўнікавую частку кнігі папярэджваюць карты Беласточчыны — адміністрацыйныя і дыялекталагічная, а завяршае спіс заўважаных памылак у друку ў слоўніку выдадзеным у 2011 г.

Кніга, — пішуць выдаўцы, — можа быць вельмі прыдатнай у ходзе кадыфікацыі генетычна беларускіх назваў на Беласточчыне і пры ўвядзенні падвойных назваў, польскіх і ў беларускай версіі на тэрыторыі некаторых гмін Падляшскага ваяводства ў адпаведнасці з законам ад 6 студзеня 2005 г. Выданне можа служыць дапаможнікам для Камісіі назваў населеных пунктаў і фізіяграфічных аб'ектаў у працах над стандартызацыяй і кадыфікацыяй мясцовых назваў у Польшчы.

Выдавец і распаўсюджвальнік слоўніка „Дыялектныя назвы мясцовасцей Беласточчыны ў алфавітным парадку" — Фонд імя князя Канстанціна Астрожскага.

**Віталь ЛУБА**

*Gwarowe nazwy miejscowości Białostocczyzny w układzie alfabetycznym, opracował Michał Kondratiuk, Białystok 2014, ss. 336.*




У публікацыях „Нівы" аб беларускай дыяспары ў розных краінах неадназова пісалася, што сёння існуюць свайго роду два тыпы беларусаў замежжа. Адны імкнуцца ў першую чаргу захаваць беларускую культуру, традыцыі, мову, выкарыстоўваючы іх хаця б у зносінах паміж сабой. Другія з'яўляюцца крэатурай эканамічных падраздзяленняў пасольстваў РБ у тых ці іншых краінах, а іх галоўная задача — праўдамі-няпраўдамі рэалізаваць на тамтэйшым рынку прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў. Пры гэтым захаванне ў той мясцовасці беларускіх традыцый і культуры для іх задача другасная. Часцяком народныя святы выкарыстоўваюцца выключна для ўсталявання ці замацавання навязаных „выгадных" кантактаў. Беларуская мова ў зносінах паміж сябрамі такіх арганізацый практычна не гучыць.

Асабліва яскрава такі падзел можна паглядзець на прыкладзе беларускай дыяспары ў Маскве, калі зазірнуць на сайт Грамады беларускай культуры імя Францішка Скарыны. Каб на яго трапіць, трэба набраць у інтэрнэце адрас **http://belhramada.ru**.

Першы позірк на галоўную старонку адразу дае знаць аб тым, што стваральнікі і ўладальнікі партала — апантаныя беларушчынай. Таму мы ўбачым там вялікую выяву герба „Пагоня", а таксама карту 1903 года вядомага даследчыка Яўфімія Карскага, датычную беларускіх гаворак. Пры гэтым галоўная старонка выглядае даволі просценька — усе выйсці на іншыя рубрыкі месцяцца толькі ўверсе цэлага выяўлення, няма ніякага яго дзялення на традыцыйныя дзве ці тры часткі, акрамя фотаздымкаў адсутнічаюць якія-кольвечы аздабленні.

Прычыны такіх асаблівасцей сайта мы можам знайсці ў інфармацыі, змешчанай на старонцы „Грамада" ў падрубрыцы „Гісторыя стварэння і існавання". Адсюль мы даведаемся, што, нягледзячы на ўсплёск беларускай адраджэнскай дзейнасці ў Маскве 20 гадоў таму, цяпер арганізацыя перажывае не лепшыя часы існавання. „Грамада" ўвайшла ў Міжрэгіянальнае аб'яднанне беларусаў Расіі (МАБР), якое не хочуць рэгістраваць расійскія ўлады. Яны лічаць, што дзейнасць гэтай грамадскай структуры „супярэчыць працэсу аб'яднання Беларусі і Расіі".

Разам з тым улады, як беларускія, так і расійскія, вітаюць нацыянальна-культурную аўтаномію „Беларусы Расіі", якую ў „Грамадзе" называюць „фармальным" беларускім рухам, а яе сяброў „прадажнымі беларусамі", то-бок тымі, якія дапамагаюць пасольству прасоўваць і спрыяць продажу прадукцыі беларускай вытворчасці ў Расіі.

„Далейшы лес МАБР у значнай ступені залежыць ад падзей на Беларусі, як метраполіі беларускага руху і ў меншай ступені ад падзей у РФ і свеце з пункту гледжання фармальнай рэгістрацыі і стаўлення ўлад. Галоўнае тое, што беларусы РФ не засталіся статыстамі гандлёвых наменклатурных гульняў. На апошнім З'ездзе ЗБС „Бацькаўшчына" дэлегацыя наменклатурных аўтанамістаў з РФ была ўспрынята свістам за мову да прапановы. Пасля гэтых падзей у РФ працэс стварэння сусветнага таварыства „прадажных" беларусаў зацix намёртва", — распавядаюць актывісты „нефармальнага" беларускага руху ў Расіі, прызнаючы, што і іх шэрагі ў Маскве значна парадзелі — цяпер іх каля сотні.

Нягледзячы на праблемы, апантаныя беларушчынай у Маскве імкнуцца дзейнічаць. Каб паглядзець наколькі ім гэта ўдаецца, варта зазірнуць на старонку „Аб'явы".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

## Магнат па мянушцы «Сіротка»



# 465 гадоў з дня нараджэння Мікалая Радзівіла

Мікалай Крыштоф Радзівіл (мянушка «Сіротка») нарадзіўся 2 жніўня 1549 г. у Чмелеве. У нашай гісторыі ён вядомы як дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мецэнат, мемуарыст. Разам з братамі Альбрэхтам і Станіславам стварыў Нясвіжскую, Клецкую і Алыцкую ардынацыі, валодаў найбуйнейшымі латыфундыямі. Прадстаўнік нясвіжскай лініі Радзівілаў герба «Трубы», сын Мікалая «Чорнага», канцлера вялікага літоўскага, і Альжбеты з Шыдлавецкіх. Асаблівую ролю ў выхаванні «Сіроткі» грала маці, якая была надзвычай пабожнай.

Пачатковую адукацыю Мікалай Крыштоф атрымаў у Лукішках і Нясвіжы, у пратэстанцкай гімназіі, заснаванай яго бацькам. У 1563 г. «Сіротка» мусіў выправіцца па веды ў Еўропу. Выехаў з Кракава ў суправаджэнні світы з 12 чалавек, у кірунку да Страсбурга. Частка світы мусіла служыць справе сувязі паміж Мікалаем Радзівілам «Чорным» і ягоным сынам. Гімназія ў Страсбургу была даволі вядомай, афіцыйна лічылася лютэранскай. Аднак у гімназіі панавала ліберальная атмасфера. У праграме, якая лічылася даволі складанай, быў зроблены націск на вывучэнне замежных моў, асабліва латыні.

Мікалай Крыштоф «Сіротка» распачаў навучанне ў жніўні 1563 г. і працягваў да жніўня 1564 г. «Чорны» выкарыстоўваў знаходжанне сына ў Страсбургу для розных мэт: прасіў яго дасылаць цікавыя яму кнігі і навіны, падтрымліваў праз яго сувязі са шматлікімі, пераважна рэлігійнымі, дзеячамі.

На карысць таго, што «Сіротка» быў надзвычай здольным вучнем, сведчыць велізарная колькасць прысвячэнняў яму ад розных вядомых тагачасных інтэлектуалаў, а таксама пазнейшая рэпутацыя князя і ўласна вынік яго пісьменніцкай дзейнасці — знакамітая «Перэгрынацыя...».

У жніўні 1564 г., з прычыны заразы ў Страсбургу, «Сіротка» пакінуў гэтае места і накіраваўся ў Тубінген. Працягваў вывучаць латынь і нямецкую мову, паглыбляў веды ў рыторыцы і грамадзянскім праве. Потым выправіўся ў Швейцарыю, адтуль выехаў у Італію.

У 1567 г. Мікалай Крыштоф атрымаў у спадчыну бацькавы маёнткі, стаў апекуном малодшых братоў і сясцёр. Таго ж года пад уплывам папскага нунцыя і езуіцкага прапаведніка Пятра Скаргі ён перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва і ўступіў у шэрагі мальтыйскіх рыцараў.

Мікалай Крыштоф браў удзел у Інфлянцкай вайне, узначаліў уласны атрад у Радашковіцкай аперацыі, у 1568 г. удзельнічаў у аблозе Улы. У час падпісання Люблінскай уніі (1569), як і большасць шляхты ВКЛ, «Сіротка» адмаўляўся прысягаць каралю Жыгімонту Аўгусту са сваіх маёнткаў на Падляшшы і зрабіў гэта толькі пад пагрозай іх канфіскацыі. У 1574 г. у час выбараў караля падтрымліваў кандыдатуру Генрыка Валезы.

Вёў змаганне супраць рэфармацыі, замяняў пратэстанцкіх прапаведнікаў каталіцкімі святарамі, таксама падтрымліваў праваслаўныя цэрквы. Падарожнічаў па Блізкім Усходзе. Па вяртанні на радзіму ён распачаў шырокае будаўніцтва ў Нясвіжы. Замест драўлянага бацькавага замка паставіў мураваны, таксама збудаваў шэраг архітэктурных комплексаў. У новым замку М. К. Радзівіл сабраў галерэю партрэтаў, бібліятэку, збраёўню. Заклаў парк у Альбе пад Нясвіжам. Мікалай Крыштоф Радзівіл «Сіротка» перапрацаваў свой дзённік падарожжаў і выдаў яго ў 1601 г. пад назвай «Перэгрынацыя Мікалая Крыштофа Радзівіла». Кніга карысталася вялікім попытам. Памёр 28 лютага 1616 г. у Нясвіжы.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Канцэрты над вадою

Як толькі пачалося лета Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) пачаў ладзіць вакальна-музычныя канцэрты ў прыгожым амфітэатры ў Старым Двары на беразе Семяноўскага возера. Усе яны карыстаюцца вялікім зацікаўленнем не толькі жыхароў Нараўчанскай, але і суседніх гмін. Прыязджаюць і гараджане з Гайнаўкі ды з Беластока. Некаторыя маюць тут свае дачныя домікі.

Такое мерапрыемства адбылося, між іншым, у нядзелю, 20 ліпеня гэтага года. Надвор'е было па-сапраўднаму ліпеньскае, сонечнае і гарачае. Шукаючы ахалоды, на пляж над возерам прыехала процьма перш-наперш маладых людзей.

А гадзіне 17-й з амаль трохгадзінным канцэртам выступіў маладзёжны мастацкі калектыў „Бяседа" з Любліна з салісткай Магдаленай. Выконваў ён пераважна папулярныя польскія песні, а таксама песні на англійскай і на ўкраінскай мовах (між іншым, песню „Підманула, підвела"). Некаторыя рытмы заахвочвалі прысутных да танца і яны танцавалі. Яшчэ ахвотней чым моладзь танчылі малыя дзеці.

Вечар быў ціхі і спакойнае было возера. Прыгожа заходзіла сонца. Пасля 20-й гадзіны на сцэне гучна спявалі і гралі члены калектыву „Нарва" з Нарвы. Пачалі з песень „Там у полі крынічэнька" і „Вяне рута". Затым паплылі „Ой болiт мэне головэнька", „Ой на горы цыганы стоялі" і польская песня „Моя міленька". Канцэрт прадаўжаўся яшчэ пасля змроку. Прыемна і весела было.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## „ПРЫМАЦКАЯ БЯСЕДА" Ў МІХАЛОВЕ

У суботу, 2 жніўня г.г. у амфітэатры ў Міхалове (Беластоцкі павет) адбудзецца вялікае летняе культурна-забаўляльнае мерапрыемства „Прымацкая бяседа" і народнае гулянне.

На гарадской сцэне выступяць шматлікія беларускія мастацкія калектывы, між іншым, „Світанак", „Крыніца", „Прымакі", „Калінка", „Гай", „Сказка", „Арт-Пронар", „Ас", „Хутар" і „Чыжавяне".

Сёлета перад міхалоўскай публікай заспявае Алёна Ланская з Рэспублікі Беларусь, зорка конкурсу Еўравізіі ў 2013 годзе.

Пры нагодзе музычнага свята народныя рукадзельнікі (а сярод іх шырокавядомыя вышывальніцы) будуць заахвочваць купіць іх адметныя вырабы, а літаратары будуць рэкамендаваць новыя кніжкі на беларускай мове.

Мерапрыемства арганізуе Гмінны асяродак культуры ў Міхалове. Больш дэталёвую інфармацыю можна знайсці на сайце горада **http://michalowo.eu/.** **(яц)**

8 ☞ працяг

# КУЛЬТУРА НА ЧЫГУНАЧНАЙ СТАНЦЫІ

ку. Лекар называўся Зінгер; ён мяне паслухаў і кажа тату: „Юзік, калі хочаш сына ратаваць, то вязі ў Варшаву". А бацька кажа таму жыду: „Як я павязу ў Варшаву, калі я і грошай не маю, і не ведаю да каго: заедзь на станцыю ў Варшаве і куды?". Той Зінгер тады кажа: „Маеш тут адрас, а мы табе грошы пазычым". Завёз мяне бацька ў Варшаву, поездам Вільня — Варшава, бо ўжо тады такі курсіраваў, у шпіталь Дзіцятка Езуса, да рэкамендаванага лекара. Той сказаў: „Слабая надзея, але яшчэ крыху дыхае". Я там праляжаў дзесяць дзён. І калі б не яны, то мяне ўжо не было б. Мая мама нарадзілася ў жыдавым маёнтку, у Папялеве, у Сатара; Сатара дачка вучылася тут, у Нараўцы.

**— А ці Вы мелі дачыненне з нараўчанскімі жыдамі?**

— Я ў школу хадзіў разам з жыдамі. А тата калісь, калі пару злотаў меў, то накупляў корту і прывозіў жыда, краўца, Мунькам яго звалі, дахаты. Тыдзень ён у нас жыў і абшываў нас; нас было траіх хлопцаў. І абутак таксама ў жыдоў заказвалі, бо яны былі шаўцамі, краўцамі, крамы мелі.

**— А ці яны толькі ў Нараўцы жылі, ці мо і па вёсках?**

— Па-суседску каля нас жылі жыды, Навасандэцкія, Шлёма і Нёма. Яны крыху займаліся гандлем драўнінай, але пераважна ў іх начавалі. Таксама нелегальна пастаўлялі гарэлку, бо тут было шмат рабочых. Узялі яны служанку, Олю Трусевіч з Міклашэва. І той Шлёма з ёю нажылі хлопчыка Давіда. Іх вывезлі разам з намі ў Астраўкі. Пасля з Астраўкоў сталі раз'язджацца і яны выехалі ў Навасады каля Ялоўкі. А там немцы забралі Шлёму, Нёму і таго Давіда, а яе пакінулі. Але яна сказала, што куды яе сын, туды і яна. Забралі іх у Ялоўку і там пабілі.

Тут, у Плянце, жыў яшчэ такі Лашэўскі, ён сам ад Познані быў. Прыходзіў да нас на вячоркі. Меў выдатную памяць. Ён быў сталяром, скуры вырабляў таксама. І калі я ладзіўся на працу чыгуначнікам, а жыць тут не было дзе, ён сказаў: „Пшыходзь до мне". Ён калісь служыў у нямецкай арміі, супраць цара ваяваў. А пасля, як настала Польшча, то пайшоў у Польскае войска, але там не ваяваў, толькі быў такі вайсковы тэатр, выступалі ў часцях. А як закончыліся войны, то распусцілі ягоны тэатр. Ён пазнаёміўся з дачкою млынара, вельмі багатага і ўзяў вялікі пасаг. Жонка была ад Гарволіна, што недалёка Варшавы; было ў іх дзве дачкі. І там, дзе калісь была гута шкла, за той пасаг ён купіў у Казла 12 гектараў; цяперака там перагрузачная станцыя. Жонка яго там кароў трымала; цяжка ім жылося. Пасля сталася так, што ягоная жонка паехала да дачкі, ён жыў сам, а я ім апекаваўся. Ён захварэў, я выклікаў санітарку, забралі яго ў Гайнаўку ў шпіталь, паляжаў ён там два ці тры тыдні і памёр. Паведамілі мяне і я ўзяўся за яго пахаванне. Солтысам у нас быў тады Анішчук Валодзя, паехалі мы з ім у магістрат, каб далі транспарт і людзей. Зайшоў да ксяндза, Верабея, магістрат даў людзей, пеўчых нават; пахавалі яго ў Гайнаўцы. Я спачатку не меў адрасу дачок, але пасля знайшоў і паведаміў. То адна, Ванда, прыязджала сюды, разлічылася з ксяндзом. І тут была хатка такая яго, з дошак, і пляц вузенькі — прасіла, каб хто гэта купіў. То я Колю Барэчку намовіў купіць пляц, а я купіў хатку; мне гэта не аплачвалася, але купіў, каб іх задаволіць.

**— А што з гектарамі сталася?**

— Усё пайшло пад гміну, бо яны не прыязджалі. Я пісаў на адрас, які ў мяне быў астаўся, але мне адпісвалі, што такіх няма, што адна дачка недзе ў Варшаве. І так усё пайшло пад дзяржаўную ўласнасць.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. вялікая нізкая пасудзіна для мыцця бялізны = 24 _ 37 _ 25 _ 34 _ 23 _;
2. самец каровы = 13 _ 26 _ 27 _;
3. горад на Дунаі на поўначы Венгрыі = 9 _ 10 _ 36 _;
4. сумесь памёту і подсцілу для ўгнаення глебы = 18 _ 29 _ 30 _ 31 _;
5. „ціхая" рака Шолахава = 5 _ 8 _ 16 _;
6. тоўстая дошка = 32 __ 15 __ 14 __ 12 __;
7. беларускі царкоўны дзеяч XVI-XVII стст., аўтар „Граматыкі славенскай" = 28 __ 17 __ 4 __ 3 __ 2 __ 1 __ 11 __;
8. галоўны горад Верхняй Аўстрыі = 21 __ 20 __ 19 __ 35 __;
9. літургічнае адзенне святара = 7 __ 22 __ 33 __ 6 __.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | | 2 | 3 |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 28 нумара

Калій, Хомс, туз, каранцін, жорны, вуж, Арыён, цыкл, царква, Ітака, Рагвалод, шыр, куцця, верас, генацыд, Якаў, брат.

Рашэнне: **Калі мужык з жонкай сварыцца, тады ў гаршку трасца варыцца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 03.08 — 09.08

**(22.03. — 20.04.)** 3-4.08. справішся з фінансамі. Можаш зрабіць добры інтарэс, ашчадзіць. А і правесці цікавую сустрэчу. У жніўні наладзіш лёгка пару цікавых знаёмстваў; неабдумана не інвестуй у пачуцці. Да 20.08. будзе з цябе біць гейзер энергіі. З 7.08. удасца парваць з кепскай звычкай. 5-9.08. усе на цябе звернуць увагу, твой энтузіязм будзе электрызуючы, а ты ўкупішся ў чыюсь ласку. Экскурсія 1-5.08. можа не ўдацца. У першай палове месяца будзеш марудны і без матывацыі да дзеяння, дык лепш зрабі сабе адпачынак.

**(21.04. — 21.05.)** Спросціш сваё жыццё, пазбягай складаных сітуацый і людзей, якія майстры ва ўскладняні жыцця. 1-5.08. твае словы будуць як нажы; дапячэш нават шэфу, што табе ў дабро пасля не пойдзе. Добры час на вядзенне сур'ёзных размоў, таксама з партнёрам. Пакарыстайся добрым часам!

**(22.05. — 22.06.)** Шмат спрыяльных выпадкаў; апынешся ў адпаведны час і ў адпаведным месцы. Умела пакарыстаешся нагодамі. Не будзь уласніцкі. У жніўні ты трывалы на боль, дык не бойся дантыста ці хірурга. З 7 (да 11.08.) пачнецца час нялёгкіх выбараў а нават расстанняў; у час падарожжаў будзь вельмі асцярожным.

**(23.06. — 23.07.)** Пазнаёмішся з кімсьці цікавым; не трась часу на доўгія падыходы (асабліва калі ты народжаны 5-8.07.), шмат прыемнасці. Кампанія блізкай асобы будзе для цябе як бальзам, усё складзецца так як любіш. Да 10.08. маеш шанц наладзіць важнае супрацоўніцтва, падпісаць важную дамову, знакаміта ўкласці ашчаднасці; гэта дазволіць табе на працягу пару месяцаў стануць на ногі. Увесь жнівень добры час на размовы аб павышэнні.

**(24.07. — 23.08.)** Дзве першыя дэкады будзеш адчуваць сябе фантастычна. Гартуйся, гімнастыкуйся, рэабілітуйся. Не скупі каханай асобе пахвал, паказвай ёй свае пачуцці. Дацаняй тое, што маеш у пары. Не шкадуй сабе добрай забавы. У сям'і завершыш старую справу. Пільнуй грошай, выдавай іх абдумана.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш зззяць энергіяй і задумамі, знойдзеш вырашэнне кожнай праблемы. Большасць месяца, аднак, будуць цябе турбаваць чорныя думкі. Захочаш шукаць змен. А цяпер прыйдзецца паафармляць неадкладныя справы, усё пааплачваць. У жніўні лепш не падпісвай новых дамоў, не інвестуй.

**(24.09. — 23.10.)** Да 4.08. знакаміта пакіруеш іншымі. Твая энергія, псіхічная сіла захопяць асабліва тваіх апанентаў. Але 4-10.08. не разлічвай лішне на добрую форму, будуць дробныя перашкоды, асабліва асоба са знаку Казярога або Барана спрабуе намуціць. Затое добра будзеш распараджацца грашыма, будзеш ашчадны і талковы ў гэтым плане.

**(24.10. — 22.11.)** Настаўся на кар'еру ў жніўні; работы будзе шмат, могуць цябе павысіць, можаш пашукаць новую працу. Будзь шчыры і непасрэдны. Кемлівасць і адвага дазволяць высветліць непаразуменні. З 7.08. (да 11.08.) стома дакучыць табе да касцей, асабліва таму, што возьмешся за вельмі вычэрпваючае мерапрыемства. Будзеш жыць ідэальным каханнем (не расчаруйся!), але ж страпянешся. Скарпіёны народжаныя 8-13.11.: у вашых пачуццях мала дрыгне, а зоймешся чымсьці прызямным. Вельмі пільнуй сваю галаву і дыхальныя шляхі ўвесь жнівень.

**(23.11. — 22.12.)** Бурліва ў пачуццях, але Меркурый разгоніць адчайныя думкі. Знойдзеш час на каханне! Жыццё пойдзе неверагодным тэмпам, свае планы зрэалізуеш, выйдзеш па-за круг штодзённшчыны. Добрыя лады з дзецьмі, задбай і аб старэйшую радню. Не трымай ладоў з ашуканцамі.

**(23.12. — 20.01.)** Стабільнасць, пачуццё бяспекі, спакой. Можаш зрабіць добры інтарэс, здаць цяжкі экзамен, запланаваць сваю будучыню. Але ахалодзяцца лады з сябрамі. Тваё цела будзе працаваць як добрая машына. Можаш цяпер сесці на дыету. Амбіцыі будзеш рэалізаваць метадычна. З 7 (да 11.08.) не ідзі напрасткі ў вырашэннях.

**(21.01. — 19.02.)** Не абяцай нічога ў пары. Не пасварыся, бо гэта адаб'ецца гікаўкай доўгі час. Будзеш імпульсіўны, гіперактыўны, не накручвайся яшчэ больш. 6-10.08. знойдзеш проціяддзе на сямейныя турботы. З 7.08. добры час нават на бравурныя рашэнні і дзеянні; будзеш самаўпэўнены, інтуітыўны. 3-4.08. можа і пераборшчыш, ставіўшы справу ясна, але часам так і трэба!

**(20.02. — 21.03.)** Многа абавязкаў і фармальных спраў; дасі рады! 3-9.08. сіла і адвага; пазбудзешся сумненняў і ілюзій; засяродзішся на найважнейшым. Але будзеш вельмі ласомы асабліва на салодкае; вельмі дбай аб сваю пячонку і падстраўнікавую залозу. Не будзеш наракаць на свой рахунак, будзе ладны прыбытак 6-10.08., добра заінвестуй.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# Без долі
## на канцы свету! (5)

— Перажыў дзень, то добра, — кажа Лідзія Назарук, — а пра іншае ды не было і калі падумаць.

Найгорш змірыцца з сабой, сваёй доляй. Жыццё смяялася проста ў твар. На якую халеру было ёй з'язджаць у Гайнаўку, каб пасля гадоў, без грошай і здароўя, зноў апынуцца ля разбітага карыта. У Бобенцы ўсё трэба было нажыць, давесці на хутар электраэнергію, адрамантаваць хату, падключыць водаправод і тэлефон. А ўжо найгорш прыходзілася з дровамі. З іх падрыхтоўкай, хоць ты жыві ў пушчы, знясіленай хваробай кабеце заўсёды было складана. Іншая справа, калі ты пры грашах. Тады ўсё, прывязуць, разгрузяць, парэжуць ды яшчэ парубаюць.

Праўда, жыццё ў Гайнаўцы моцна яе загартавала. Каб звесці канцы з канцамі, распрадала ўсе свае каштоўнасці: крыштальную пасуду, тканіны...

— Я не любіла сябе, усё дакарала, — прызнаецца жанчына, — бо не ўмела красці. *Ей богу,* пайшла б красці, каб толькі ўмела...

І яшчэ тыя хваробы, быццам змовіліся з безграшоўем і абыякавасцю родных.

Пакуль атрымала мізэрную пенсію — усяго 350 злотых, тры аперацыі перайшла: пашкоджаны пазваночнік, недастатковасць страўніка, пухліна маткі. І ледзь перажыла гэту апошнюю, бо ў яе целе нейкі аперацыйны інструмент праз памылку зашылі.

— Нават *дахтары* не верылі, што буду жыць!

І я сама не магла да канца паверыць у тое, што адбывалася ў час нашай сустрэчы. Вось трэба было мне папасці *на канец* свету ў Бобенку, каб разам з апошняй і ў дадатак сляпой сведкай жудаснага здарэння, асвятліць прызабытую трагедыю часоў Другой сусветнай вайны.

* * *

Ёй, пяцігадовай тады дзяўчынцы, цяжка было паверыць ці гэта адбываецца на яве. А можа гэта сон-кашмар, які расплываецца пасля разбуджэння? Нават не памятае дэталяў. Ці плакалі перад смерцю тыя дзеткі, якіх немцы павешалі на плоце? Што гаварылі іх бацькі?

А можа ўсё адбывалася ў атрупянелай цішыні? У трагічнай пакорлівасці?

Не памятае колькі часу мінула паміж забойствам і момантам, калі яны ўсе, цэлая вёска, як адзін муж, спачатку ішлі *пазаклунямі*, а пасля выстойвалі над шырокім ровам-магілай...

— Здаецца, гэта нашы людзі спачатку капалі такі доўгі роў, — прыгадвае Лідзія Назарук. — А пасля трэба было распранууцца да сарочкі. Каля самога рова паставілі дзяцей, самых маленькіх трымалі на руках.

Запамятала яшчэ, што ўсе былі басанож. Нехта шаптаў малітву, іншы ціхенька плакаў.

— *Но крычаты нэ можна было*, — дадае.

Толькі пасля даведалася ад дарослых, што іх усіх хацелі расстраляць.

Праўда, з цэлага здарэння ёй найбольш запамятаўся самалёт.

Як ён надляцеў ад стараны лесу. А пасля адчыніліся дзверы і выйшаў *адзін мужчына*. Мабыць, немец. Ён пагаварыў з тымі, што іх трымалі пад дуламі, і пасля людзей адпусцілі дахаты.

— Бо той немец сказаў, — заяўляе мая гераіня, — што вінаватыя ўжо пакараныя. Хопіць смерці гэтай сям'і, што абдарыла хлебам пераапранутага партызана.







Памятае палымяны ўспых радасці. Як усе апраналіся, выцягвалі з гурбы абутак. Як плакалі, а пасля маліліся. Колькі значыць жыццё! Ніколі ў жыцці не бачыла большага шчасця.

А пасля ад удзячнасці за выратаванне ўсе жыхары Бобенкі паехалі ў царкву ў Амельянец, каб закупіць *абедню* за добрага немца.

* * *

— Я таксама нікога не вінавацілa за ўсе свае няшчасці, — кажа Лідзія Назарук. — Я сама сабе нарабіла.

Апошняе прызнанне я ўспрыняла як урок жыцця. Як гэта, пасля такой траўматычнай гісторыі з часоў дзяцінства, яшчэ сябе ў нечым вінаваціць? Той жа няшчасны досвед далей тырчыць у кожнай крывінцы, у касцях, у лабірынтах мазгоў. Не дазваляе змагацца, адбірае рашучасць, застаўляе мірыцца...

— Не, гэта не так, — кажа Лідзія Назарук.

І я веру больш ёй, чым дактарам-псіхааналітыкам. У каго яшчэ знойдзеце столькі рашучасці і любві, каб атуляць і гадаваць сястру-інвалідку?

Каб, пры яе хваробах, дыябеце ды слепаце, думаць пра годнасць, пра самастойнасць?

Пра бацькоў, якія хоць надакучылі ёй у жыцці, далей засталіся бацькамі?

— Я не хацела за яго выходзіць, — кажа пра свайго шлюбнага мужа, — хацела бацькам дакучыць.

Перад тым, як пасватаўся будучы муж, Лідзія хадзіла з другім. Яе бацькі не адабралі яе выбару, бо ён быў з вялікай сям'і.

— Ён і табе столькі наробіць! — палохалі. — І пасагу не будзе....

У адказ Лідзія прыняла рашэнне: яна пойдзе за першага, хто з'явіцца са сватамі. Хай сабе будзе кульгавы ці п'янюга! Ёй усё адно. Галоўнае, каб на злосць бацькам зрабіць.

Праўда, яе каханы пайшоў вучыцца ў вайсковую школу. Ён намаўляў яе, каб кінула хутар, уцякла ад бацькоў...

— А я школы не мела і баялася. А што будзе як прывяду дзяцей, а ён мяне, простую жанчыну з вёскі, кіне. Куды мне тады ісці з дзяцьмі?

І так атрымалася...

— А калі пра вайну, дык мае дзеці смяюцца з нашай дурноты, — дадае Лідзія Назарук.

Самай трагічнай падзеяй аказалася «вызваленне», калі рускія гналі фашыстаў і праз іх вёску праходзіў фронт. Тады загінула многа людзей... Зусім, без толку.

— Бо калі з самалёта пасыпаліся бомбы, людзі замест сядзець у падрыхтаваных заранёў бамбасховішчах, выбегалі на вуліцу і беглі туды, куды падалі снарады. Яны думалі, што гэта кансервы ім з самалёта спускаюць...

— Я не ведаю, чаму ўсе былі такія... — мая гераіня доўга шукае адпаведнага слоўца, — такія даверлівыя, як тыя дзеці...

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960